
Гісторыя Гайнаўкі → 3

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714



Некраполія нашых гарадоў... → 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (3036) Год LIX | Беласток, 20 ліпеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

„...трэба зрабіць усё, каб вызваліць яшчэ сем чалавек, і сітуацыя для рэжыму ў плане паляпшэння адносін з ЕС будзе лепшая, чым цяпер. Ёсць ува мне нейкі аптымізм у гэтым стаўленні...

# Алесь БЯЛЯЦКІ ў Варшаве

У своеасаблівы юбілей 20-годдзя прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі — 10 ліпеня ў Варшаве гасцяў кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, прысуджаны да 4,5 года папраўчай калоніі строгага рэжыму, выпушчаны адтуль у чэрвені, пасля 1050 дзён палону. Ён сустрэўся, між іншым, з прадстаўнікамі польскіх няўрадавых арганізацый, Яцкам Міхалоўскім — кіраўніком Канцылярыі Прэзідэнта РП, парламенцкай групай па Беларусі і міністрам замежных спраў Радаславам Сікорскім; падчас сустрэчы кіраўнік гэтага ведамства заявіў:

— Мы балюча перажылі ваш арышт.

Алесь Бяляцкі са свайго боку запэўніваў:

— Я за маё зняволенне не вінавачу польскіх улад.

Вызвалення Алеся Бяляцкага дамагаўся ЕС і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі. У лістападзе 2011 года ён быў таксама прысуджаны да канфіскацыі маёмасці за ўтойванне надзвычай буйных даходаў. Яго таксама абавязалі выплаціць 757,5 мільёнаў беларускіх рублёў (каля 90 тысяч амерыканскіх долараў). Суд устанавіў, што ён не заплаціў падаткаў ад больш чым 560 тысяч еўра, пераведзеных на яго банкаўскія рахункі ў Польшчы і Літве ў 2007-2010 гг. Польшча аказала Беларусі юрыдычную дапамогу ў яго справе, перадаючы беларускай пракуратуры дадзеныя з банкаўскіх рахункаў у Польшчы, з якіх «Вясна» фінансавала сваю дзейнасць. Гэта выклікала міжнародны скандал і адстаўкі ў генеральнай пракуратуры. Міністр замежных спраў Радаслаў Сікорскі папрасіў прабачэння яшчэ ў 2011 годзе ў беларускай апазіцыі за "заганную памылку", а пракуратура абвясціла аб змене практыкі і дэталёвым аналізе кожнай беларускай заяўкі.

Падчас так званага адкрытага пасяджэння ў Фондзе Стэфана Баторыя суарганізатарка Данута Пшывара — прэзідэнт Хельсінскага фонду па правах чалавека ў Польшчы — распавяла пра Алеся Бяляцкага як пра «чалавека, які заплаціў вельмі высокую цану за сваю дзейнасць у галіне правоў чалавека, годнасці беларусаў». Сам герой сустрэчы так успамінаў перыяд пазбаўлення волі:

— Я атрымаў вельмі важны вопыт так як абаронцы правоў чалавека, як і звычайнага чалавека, які для мяне, як праваабаронцы, напэўна спатрэбіцца ў далейшай працы.

Першае, што ён зрабіў пасля выхаду з калоніі, напісаў на паштоўках іншым палітычным зняволеным, што ён на волі, і каб яны мацаваліся:

— Я зраблю ўсё, што магу зрабіць, каб і яны выйшлі на волю. І гэта адна з самых важных задач перада мной. Мае паездкі ў еўрапейскія сталіцы ў асноўным былі звязаны з абнаўленнем гэтага пытання. Трэба зрабіць усё, каб вызваліць яшчэ сем чалавек, і сітуацыя для рэжыму ў плане паляпшэння адносін з ЕС будзе лепшая, чым цяпер. Ёсць ува мне нейкі аптымізм у гэтым стаўленні.

Ён адзначыў:

— Маё «не рабленне нічога» ў няволі мабыць было больш эфектыўным, чым калі б я быў на волі. Той факт, што я выйшаў з меншай у большую калонію, не змяніла маёй пазіцыі: калі будзе ў мяне дастаткова сіл, я надалей буду рабіць тое, што я рабіў на працягу апошніх трыццаці гадоў.

Адзначыў:

— Пытанне аб адказнасці за тое, што адбываецца ў нашай краіне, заўсёды вострa стаяла ўва мне. Я ўспрымаю гэта як асабістую адказнасць. Калі з быў у няволі, я ніколі не адчуваў, што я па-за гэтым працэсам. Мабыць, няволя была самай актыўнай у барацьбе з неспрыяльнымі цяперашнімі ўмовамі ў Беларусі: пасіўнасці і высокім узроўнем страху ў грамадстве, фрагментацыі дэмакратычных сіл. Седзячы ў турме, у пэўным сэнсе ўплываем на тое, каб людзі так не баяліся.




Злева: Марцін Рэмбач, Алесь Бяляцкі, Юрка Ляшчынскі, Волга Ахрук

Спасылаючыся на сітуацыю ў Беларусі і яе адносіны з ЕС, успамінаў:

— Вельмі важна, каб Беларусь была ў полі зроку ЕС і еўрапейскіх палітыкаў і, самае галоўнае, у полі зроку нашых суседзяў і гістарычных сяброў, у тым ліку Польшчы. Зразумела, што падзеі ва Украіне адцягваюць цяпер увагу. Тое, што адбываецца ва Украіне таксама мае важнае значэнне для нас. На Украіну, Беларусь і Малдову трэба глядзець як на адзін рэгіён. Працэсы, якія адбываюцца ва Украіне і Беларусі, цесна звязаныя. Справа ў тым, каб увага, накіраваная на Беларусь, заставалася на адносна высокім узроўні, каб пошукі крокаў, магчымых кампрамісаў, магчымага выхаду маглі быць дастаткова плённымі. Вядома, я не веру, што Лукашэнка калі-небудзь будзе дэмакратычным прэзідэнтам. З іншага боку, эканамічная сітуацыя ў Беларусі з'яўляецца вельмі складанай. На самой справе стаіць на мяжы эканамічнага крызісу, нягледзячы на гэта, якую сур'ёзную дапамогу нясе Расія: вельмі танны там газ, вельмі танная нафта. Нягледзячы на гэтую дапамогу, беларускія ўлады не могуць звесці канцы з канцамі. Гэта прымушае беларускі рэжым шукаць падтрымку і паляпшэння адносін з ЕС. Несумненна, трэба шукаць магчымасці для зніжэння страху ў беларускім грамадстве, для большых магчымасцей працы грамадзянскай супольнасці. У гэтым кірунку дапамога ЕС магла б прынесці найбольш эфектыўныя перавагі беларускаму грамадству.

Падкрэсліў:

— Вядома, надзвычай важныя для нас тыя праекты, якія таксама падтрымлівае польская дзяржава, такія як тэлебачанне «Белсат» і Радыё Рацыя — такія структурастваральныя праекты, такія дрэвы, вакол якіх расце мноства іншых, больш дробных дрэў, якія ствараюць атмасферную абалонку вакол Беларусі. Я не буду нічога новага казаць, але вялікай дапамогі патрабуюць незалежныя сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі (тут згадаў магчымасці, якія прадстаўляюць інтэрнэт, а таксама мабільныя сеткі — М.Х.). Вядома, таксама маюць патрэбу ў дапамозе НДА і ініцыятывы, якія развіваюцца ў апошнія гады, што для мяне з'яўляецца новым аспектам: багацце некаторых нефармальных, культурных, экалагічных, праваабарончых ініцыятыў, якія не ёсць палітычнымі, і іх лік сягае ў сотні тысяч людзей. Яны развіваюцца не толькі ў Мінску, але і ў абласных гарадах. Гэтая новая хваля маладых людзей. Мы будзем старацца, каб гэтыя ініцыятывы мелі працяг, каб узмацнялі грамадзянскую супольнасць у Беларусі. Займацца адной палітыкай у Беларусі не толькі небяспечна, але і неэфектыўна.

На яго думку, больш эфектыўнымі, чым падрыхтоўка і ўдзел у чарговым фальсіфікаваных выбарах, ёсць м.інш. такія дзеянні, як выдача і прадстаўленне чарговага музычнага альбома з песнямі на беларускай мове:

— Гэта тое, што можа мацаваць беларускую супольнасць, беларускую мову і беларускае грамадства, і прытым ёсць пачуццё задаволенасці тым, што было зроблена, ну і што можа сапраўды быць зроблена ў сённяшняй Беларусі. Калі будзе ў нас здаровая грамадзянская супольнасць, будзе здаровая палітычная апазіцыя (...). Адбываецца ў нас фармаванне народа, нейкай матрыцы. Наш гістарычны вопыт і іншых краін паказваюць, што мы павінны прайсці тыя сорак гадоў у пустыні.

працяг ☞ 10



# Само па сабе

Беларускі менталітэт унікальны. Ні ў каго больш няма такога. І гэтая ўнікальнасць адлюстроўваецца нават у мове. Прыкладам, слова „нарабілася”. „Ой жа ж і нарабілася!” — кажа чалавечак. Нібыта не ён нарабіў, і ніхто не нарабіў. А ўзяло, і само нарабілася. І вось чакае наш чалавечак, калі ўжо прыйдзе час, калі нешта добрае само зробіцца. Што гэта? Невывучаны варыянт фаталізму, ці страх сваім удзелам зрабіць яшчэ горш, чым ёсць?

Зусім нядаўна бавіўся я ў адной кампаніі. Гасцей было багата і ўсе людзі розныя. І навукоўцы, і рабочыя, і прадпрымальнікі ды проста працавітыя і руплівыя людзі, якія на пытанне: „Чым займаешся”, сціпла адказваюць: „Працую на сябе”.

Што абазначае „працую на сябе”, у Беларусі ведае кожны. Дыяпазон прафесій у гэтай эканамічнай галіне даволі шырокі. Гэта і будаўнікі, і перагоншчыкі аўтамабіляў, і ўсе іншыя, хто не хоча ў сваіх працоўных стасунках звязвацца са сваёй жа дзяржавай. І калі-некалі, гадоў дваццаць таму, у гэтую катэгорыю ішлі тыя, хто не хацеў дзяліцца з дзяржавай прыбыткам, то зараз гэта пераважна людзі, якія хацелі б працаваць легальна, але маюць негатыўны досвед стасункаў са структурамі роднай краіны. Таму і спадзяюцца выключна на таго, на каго вырашылі працаваць — на сябе.

— Наш чалавек ужо моцна стаміўся змагацца з ветракамі, — зрабіў выснову адзін з прысутных. — Ён ужо нічога не хоча. Ні звышпрыбыткаў, ні неверагодных вышынь. Ён хоча толькі спакойна працаваць, зарабляць на жыццё сабе і сваёй сям'і, плаціць падаткі, і каб яго толькі не чапалі. Але такога няма. Бо як толькі ты прызнаўся, што ты зарабіў і хочаш чэсна заплаціць належны падатак, на цябе глядзяць як на злодзея. Ніхто не верыць, што ты можаш сказаць праўду. Усе пачынаюць капаць пад цябе, пераправяраць і ў выніку ты замест, каб працаваць, мусіш даказваць усё астатняе жыццё, што да гэтага моманту ты працаваў чэсна.

— Што праўда, то праўда, — пацвярджае другі. — Але акрамя гэтага чалавек ніколі не ведае, што ім там заўтра ў галаву стрэльне. Толькі наладзіш сваю працу згодна з іх патрабаваннямі, як назаўтра прад'яўляюць іншыя патрабаванні. Як зараз з сертыфікацыяй.

— Гэта яны падганяюць умовы працы пад агульныя, што будуць дзейнічаць на тэрыторыі Еўраазіяцкага саюза, — пачынае тлумачыць трэці.

— Спачатку былі ўмовы нейкай саюзнай дзяржавы, — пярэчыць яму суразмоўца. — Абяцалі нам, што як тая дзяржава ўзнікне, адразу ўсім стане лепш. І адразу стала горш. Проста адразу. Пасля казалі, што як у мытны саюз увойдзем, то ад багацця не будзем ведаць куды дзецца. Я то ўжо тады ім не верыў. Але ў мяне і не пыталі. Ну то ўвайшлі ў мытны, і адразу ж стала невыносна. Зараз ужо нейкі Еўраазіяцкі саюз. Хваліліся, што цяпер то зажывём як на Захадзе. А я ўвесь час думаў, калі яны хочуць зажыць як на Захадзе, ды на Захад і трэба ісці. А яны, каб жыць як на Захадзе, чамусьці лезуць на Усход. Ну дзе тая логіка?!

— Вось-вось, — падтрымаў яго калега. — Як мы пачулі, як добра будзе ў тым ЕўрАзЭС, то адразу падумалі, хоць бы зусім капец не надышоў. І што вы думаеце, рэальнасць аказалася яшчэ горшай. Ну, мяркуйце самі. Ва ўсім свеце кошты на нафту падаюць, а ў нас адразу сталі падымацца на бензін. І гэта пасля таго, як увайшлі ў саюз з нафтавымі краінамі!

— А вы калі-небудзь чулі знакамітае выслоўе, што трэба шукаць галоўнае, а ўсё астатняе прыкладзецца, — уклініўся ў размову я.

— Ну, чулі, — адказваюць хлопцы. — А што ты маеш на ўвазе?

— Асабіста для мяне, — тлумачу я сваю пазіцыю, — ісці на Захад ці на Усход пытанне не эканамічнае, а цывілізацыйнае. Я хачу, каб наша Беларусь ішла на Захад, бо лічу яе еўрапейскай краінай, якая мусіць развівацца ў еўрапейскіх цывілізацыйных традыцыях. Ну, а дабрабыт, калі мы прымаем правільны духоўны выбар, да гэтага дакладзецца.

Хлопцы замаўчалі, задумаліся. А пасля наперабой загаварылі.

— Ну як то ён сам дакладзецца? Быць такога не можа. Хоць было б добра, каб сам. На Захад то таксама было б добра. Каб толькі і гэта неяк само па сабе адбылося.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Беззмястоўны баязлівец

Нездарма ж фашызуючыя нацыяналісты (не толькі польскія) пачынаюць нагадваць «кібольскае», фаната-хуліганскае асяроддзе, званае таксама «шалікоўцамі». Можа быць наадварот, але і так адно і тое ж. Абодва яны, а таксама неабавязкова толькі ў Польшчы, ставяцца адзін да аднаго праз агульныя для іх прымітыўныя племянныя эмоцыі. Яны выказваюць сябе праз агрэсію, варожасць, нянавісць супраць усіх рэчаў замежных, іншых, непрыстаючых да ідэнтыфікацыі экспрэсіі племя. Бо не змест яны маюць на ўвазе, але прыкладна тую экспрэсію: дабытую з чалавечых глыбінь рэптыльнага радаводу, роднасці з раннелюдскімі канібаламі, дзікуноў хрумкаючых пад прыгнётам цывілізацыі і культуры. Хоць абедзве фармацыі выкарыстоўваюць пэўную памыйную ідэалогію, якая пахне затхлым мінулым і гніллю нацыяналізму апранутыя для дыму ў псеўдапатрыятычныя шматкі, цяжка дашуквацца там акцэнту гуманітарнасці. Гуманітарнасці ў сэнсе перавагі чалавечага духу над прыродай чалавека-звера. Але наколькі сапраўднае выказванне, што звер нараджаецца праз паслядоўнасць звера, так і ёсць нефальшывай здагадка, што сярэдні фаната-хуліган, нацыяналіст або фашыст пазбаўлены эмацыйнай падтрымкі аднадумцаў- прымітываў, пачынае самастойна думаць. Толькі незалежнае мысленне з'яўляецца пытаннем асабістай мужнасці, а не групавой, па-свойму зручнай імітацыі. Не кожны здольны справіцца з гэтым, і ўжо асабліва палякі. І не толькі польскія хуліганы і фашысцкія нацыяналісты. Хоць нікому з іх не хапае смеласці гераічнай, ваеннай, дык той грамадзянскай, звычайна чалавечай ужо ім не хапае. Той жа прынцып некрытычнага перайманя як сярод вельмі экстрэмальных асяроддзяў, можна назіраць у адносінах усіх польскіх грамадзян. Паказваецца яно ў сваёй нерэфлектыўнай рэлігійнасці, у спекулянцкім палітыканстве, партыйным цемрашальстве, бізнесным круцельстве і, нарэшце, агульным ігнараванні заканадаўства і адсутнасці павагі да чалавечай справядлівасці — аднолькава суддзямі, пракурорамі, як і звычайнымі грамадзянамі. Я не хачу гэтым сказаць, што ўсе такія. Я не хачу таксама сказаць, што гэта польская большасць. Я кажу толькі аб тым, што польскім звычаем з'яўляецца агульная бяздумная згода на бяздумнае перайманне, і гэта па рысах першабытнага племені. Замест таго каб гаварыць — плявузганне. Замест дамовы — мардабой. Замест спагады — нянавісць. Замест мужнасці — грамадзянская баязлівасць. Замест зместу — форма.

Паняцці формы і зместу вядучыя ў гэтым фельетоне. А прыклад хуліганаў ці нацыяналістаў у кантэксце гэтых паняццяў самы трапны. Нібыта «шалікоўцы» гатовы аддаць жыццё за сваю каманду. А нацыяналісты — за радзіму. У любым выпадку, гэта было б стаўленне годнае павагі, калі б не адно але. Гэта бяззместавыя заявы. Бо ці «шаліковец» турбуецца тым, каб яго любімая каманда выйграла матч ці цалкам яго правальіла? Ці ўвогуле клапоціцца ён пра самую каманду? Фанат-хуліган яе прыхільнік таму, што ягоныя калегі па групе адносяць да яе свае распушчаныя эмоцыі. Эмоцыі з'яўляюцца адной з формаў ідэнтыфікацыі для выражэння групы. Яны без зместу. Фанат-хуліган мае больш павагі для шаліка — фанацкага сімвалу сваіх братоў у групе, абавязваючага ў звычаях і абрадах клуба ў адносінах да ворагаў і саюзнікаў, чым для той жа футбольнай каманды. Каманда, футбольны клуб гэта для фаната-хулігана — проста пустэча, як дзірка, якую вызначаюць берагі хрумсткага абаранка. Так фанат-хуліган абыдзецца без футбольнай каманды, нават без матча на стадыёне, калі пакінем яму ідэнтыфікацыйныя сімвалы, пачуццё групавой ідэнтычнасці і больш-менш створанага ворага, які стаіць яму на перашкодзе. На такой жа падставе, як я думаю, фармулюецца фашызуючая нацыяналістычная ідэнтычнасць. І я не ведаю, ці такое прымяняецца таксама пры г.зв. выбарчай масе. Крывая палітычных сімпатый электарату робіць нераўнамерны зігзаг як кепская фастрыга. Раз абшывае яна сваімі паказаннямі ГП, іншым разам ПіС. І вельмі несправядлівая ў адносінах да рэальнага кошту гэтых палітычных партый. Ці гэта не вынік не занадта некрытычнага ўпарадкавання паводле племяннога ўзору часовых эмоцый? Я не ведаю. І я думаю, я б не хацеў ведаць. Толькі тады я аказаўся б баязліўцам. Такім па-чалавечы — гадкім, беззмястоўным баязліўцам, якому застануцца толькі фаната-хуліганскія эмоцыі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Афёра з рэкламным шчытом

Я чытаў, і не верыў сваім вачам. На лініі Гарадок-Міхалова ўскіпеў скандал. Зусім як ваенная становішча. Моцныя словы блізкія шпіёнскаму раману. І ўсё праз банэрную рэкламу валадара Міхалоўскай гміны на гарадоцкім будынку, а ў прынцыпе праз выдачу дазволу, які, верагодна, можа быць доказам нелаяльнасці таго, хто дазваляў, калі б не яго хуткі рэфлекс. На сайце Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку з'явілася заява яго дырэктара Юрыя Хмялеўскага, а пачынаецца яна як паведамленне паліцыі:

«26 чэрвеня позна ўвечары, нанятае Гарадской управай у Міхалове рэкламнае агенцтва з Беластока павесіла на сцяне Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку рэкламу ў вялікім фармаце, з выявай валадара нашых суседзяў. Бургамістр Марк Назарка заклікаў жыхароў Гарадка да таго, каб... перасяліліся ў Міхалова. Рэкламу падвесілі хітрыкам. Хоць агенцтва арандуе паверхню, але пад рэкламы зусім іншага характару. Ламаючы дамоўленасці і палажэнні пагаднення, рэкламны шчыт з Міхалова быў павешаны пасля гадзін працы ГЦК, не паказваючы яго, і не інфармуючы аб гэтым дырэктара ані яго персаналу. Больш за тое, нанятае агенцтва прыступіла мантаваць устаноўку без папярэдняй аплаты належных сум на рахунак ГЦК, што было адной з асноўных умоў запісаных у дамове. Павешаная ў спешцы рэклама на заўтрашні дзень была хутка знятая, неадкладна адмовіліся ад кантракта з агенцтвам і зрабілі адпаведныя прававыя меры. У Гарадку няма ніякіх сумневаў, што гэта было адмысловае дзеянне міхалоўскага бургамістра, каб дыскрэдытаваць войта нашай гміны, дырэктара ГЦК і жыхароў Гарадка, сярод якіх ён выклікаў вялікае абурэнне. Пытанне толькі ў тым, нашто гэта было зроблена».

У канцы тлустым друкам дырэктар пытаецца: «Чаму за грошы міхалоўскіх падаткаплацельшчыкаў дайшло ў Гарадку да такога непрыемнага інцыдэнту?» Рэклама хутка была скінута асабіста дырэктарам, які падняўся раней на раскладную на некалькі метраў драбіну пажарнай машыны. Гэты памятны факт (як доказ лаяльнасці гарадоцкаму войту, якому падлягае ГЦК?) быў увекавечаны на фатаграфіі Радаслава Кулешы і змешчаны побач заявы дырэктара, каб не было ніякіх шанцаў на сумнеў, з подпісам: «Дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі выдаляе павешаную падманам рэкламу бургамістра Міхалова».

Білбордным скандалам заняўся «Кур'ер паранны». Вось, нават зрабіў з выпадку перадавы тэкст на адной са старонак у адным з апошніх выпускаў газеты. Узялі голас валадары абедзвюх мясцовасцей. Войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша:

— З Гарадка блізка да Міхалова. Калі хто-небудзь хоча жыць там, зробіць гэта і без усякай рэкламы. Жонка бурмістра Назаркі родам з Гарадка.

Як піша аўтар артыкула ў «Паранным», «па меркаванню Марка Назаркі, гэта дырэктар ГЦК патрактаваў Міхалоўскую гміну па-ксенафобску». І працытаваў яго словы:

— Такія паводзіны шкодзяць іміджу Гарадка і яго жыхароў, а яны — выдатныя людзі, а з войтам Гарадка лучаць мяне сяброўскія адносіны. Гэта дырэктар Хмялеўскі прадаў месца пад рэкламу на будынку ГЦК рэкламнаму агенцтву шэсць месяцаў таму без магчымасці скасавання дамовы і без абмежавання рэкламнага кантэнту.

Дырэктар Юры Хмялеўскі ў сваёй заяве выкацў велізарную гармату, хоць тут больш адпавядала б: велізарную пажарную лесвіцу. Застаецца пытанне, якое ён сам паставіў у білбордным кантэксце: нашто гэта ён зрабіў? Прыкладам з вялікіх польскіх афёр, пара раскрыць падслуханыя стужкі. Ну, можа, прымаючы пад увагу гмінны характар дадзенага выпадку, па меншай меры пара апублікаваць змест размовы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Гісторыя Гайнаўкі
## і наваколля, якой сведкам быў драўляны крыж

З вулікам на мясцовае праваслаўе ў чэрвені ў Гайнаўскім доме культуры адбылася прэзентацыя гісторыі Гайнаўкі і яе наваколля. Спатканне арганізаванае было гайнаўскім аддзяленнем Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. У гэтым годзе мінае 100 гадоў з часу, як на акраіне палёў вёскі Дубіны быў пастаўлены вялікі драўляны крыж, побач якога затрымліваліся і маліліся, між іншым, жыхары Арэшкава, калі везлі пакойнікаў на могілкі Дубінскага праваслаўнага прыхода.

У міжваенны перыяд каля гэтага крыжа маліліся таксама праваслаўныя жыхары Гайнаўкі, якія тады належалі да Дубінскага прыхода. Зараз гэты крыж знаходзіцца ў Гайнаўцы, па вуліцы Тамары Саланевіч. Паявілася ідэя, каб грунтоўна забяспечыць крыж, які на працягу ста гадоў быў сведкам гісторыі Гайнаўкі і яе наваколля. Інфармацыю пра крыж і яго гісторыю сабраў протаіерэй Яўгеній Падгаецкі са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, які нарадзіўся, узрастаў і надалей жыве ў вёсцы Дубіны. Падчас спаткання ў Гайнаўскім доме культуры расказаў ён пра гісторыю вёскі Дубіны і Гайнаўкі, якая ў асноўным паўстала на тэрыторыі Дубінскага прыхода, і пра гісторыю крыжа. Дырэктар Публічнай гарадской бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц у час сустрэчы расказала пра колішняе жыццё на тэрыторыі Белавежскай пушчы. Звярнула ўвагу на заснаванне падчас Другой сусветнай вайны і дзейнасць Мікалаеўскага, пасля зменелага на Свята-Троіцкі, праваслаўнага прыхода ў Гайнаўцы, з якога паўсталі дзве іншыя гайнаўскія праваслаўныя парафіі.

У 1670 годзе ва ўрочышчы Скарбаслаўка працаваў ахоўнік лесу. У XVIII стагоддзі ахоўнікам працаваў немец па прозвішчы Гайна. Мяркуецца, што ад яго пайшла назва горада Гайнаўкі. У 1894 годзе ў Гайнаўку была пракладзена чыгунка з Бельска-Падляшскага, а ў 1897 годзе чыгуначная лінія была прадоўжана да палаца ў Белавежы. У пачатку XX стагоддзя была збудавана шаша з Бельска, праз Гайнаўку, у Белавежу і чыгунка з Седльцаў, праз Гайнаўку, у Ваўкавыск. Гайнаўка апынулася тады на скрыжаванні чыгуначных шляхоў і была з добрай даязной дарогай. Падчас Першай сусветнай вайны, пры нямецкай акупацыі, пачалася будова дрэваапрацоўчай прамысловасці. Развівалася яна ў міжваенны перыяд, а яшчэ мацней — пры народнай уладзе і стала асновай эканамічнага развіцця Гайнаўкі, ствараючы найбольш у гісторыі горада месц працы. У міжваенны перыяд пасяліліся ў Гайнаўцы ў галоўным людзі з іншых рэгіёнаў Польшчы, а пры сацыялістычнай уладзе большасць жыхароў прыпушчанскага горада саставілі перасяленцы з вёсак Гайнаўшчыны. Падчас спаткання протаіерэй Яўгеній Падгаецкі расказваў пра асадніцтва на сённяшніх гайнаўскіх землях, даходзячы да часоў заснавання вёскі Дубіны і распавёў пра яе гісторыю.

— Спачатку Дубіны і Навасады былі асочніцкімі вёскамі. Іх жыхары займаліся аховай пушчы. У 1570 годзе ў Дубінах было 69 жыхароў. Пазней дубінскія палі распасціраліся ад навасадскіх грунтаў па сённяшнюю вуліцу Врублеўскага ў Гайнаўцы і да рова, пад Блішчызну. Дубінскі прыход быў у мінулым намнога большы, чым сёння. Да прыхода належалі таксама Арэшкава, ці яшчэ больш аддаленае Вітава, — патлумачыў падчас спаткання айцец Яўгеній Падгаецкі.

Дакладчык асаблівую ўвагу звярнуў на крыж, пастаўлены ў 1914 годзе. Дубінскія палі былі забраны пад будову Прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны ў Гайнаўцы, якое ў народзе называюць «Хімічная». Вялікі драўляны крыж апынуўся на акраіне фабрычнага пляца. Крыж сталі маляваць, а калі ніжняя частка гніла ў зямлі, яе падрэзвалі і зараз крыж стаў адноснa нізкі. Аднак відаць яго магутнасць, нават на фоне цяперашніх драўляных крыжоў, якія ставяць ва ўрочышчы Крыначка, ці на Грабарцы.

Мая бабуля Аляксандра, жыхарка Арэшкава і прыхаджанка Дубінскай парафіі, вянчалася ў міжваенны перыяд у царкве ва ўрочышчы Крыначка, паколькі вяселле адбывалася на Тройцу, а вянчанне — адразу пасля літургіі. Маці мая вянчалася ў Мікалаеўскай царкве ў Гайнаўцы, бо ў пасляваенны перыяд, ажно да заснавання праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве, жыхары гэтага сяла належалі да гайнаўскай Мікалаеўскай парафіі. Згаданы крыж таксама быў сведкам гісторыі маіх продкаў, частка з якіх была пахавана на могілках у Дубінах.

— Крыж быў пастаўлены ў 1914 годзе каля дарогі з Белавежы ў Бельск-Падляшскі, пры Царскім гасцінцы, па якім ездзілі ў Белавежу рускія цары і іх прыдворныя. Раней не было сённяшняй дарогі з Белавежы ў Бельск, а Царскі гасцінец вёў з Белавежы, праз Новае Беразова, у напрамку Бельска. Пазней дарогу гэтую, што ішла таксама праз вёску Дольнае, перасунулі ўбок і так яна захавалася па сённяшні час (зараз вуліца айца Антонія Дзевятоўскага — А. М.). Дубінскія землі ў 1915 годзе забралі немцы пад будову «Хімічнай». Жыхары Дубін узамен атрымалі палі ў іншым месцы, а крыж апынуўся каля агароджы фабрыкі, — патлумачыў айцец Яўгеній Падгаецкі. — Крыжам апекавалася Еўдакія Мінько, ураджэнка Макаўкі, дзякуючы чаму захаваўся ён да нашага часу. Калі крыж нішчэў, падрэзвалі яго знізу, а пасля залілі смалой.


У гэтым годзе мінае 100 гадоў з часу, калі на акраіне палёў вёскі Дубіны быў пастаўлены вялікі драўляны крыж

Протаіерэй Яўгеній Падгаецкі з'яўляецца аўтарам кніжачкі аб святым урочышчы Крыначка. Сабраў ён гістарычныя матэрыялы пра Дубінскі прыход, Гайнаўку і наваколле. Карыстаўся ён матэрыяламі прыхадскога архіва, а таксама Віленскага і іншых архіваў, успамінамі мясцовых старажылаў.

— Гістарычныя матэрыялы я стаў збіраць, калі на Тэалагічнай акадэміі ў Варшаве пісаў магістарскую працу «Дзеі Дубінскай парафіі на фоне Падляшша». Матэрыялы аб Дубінскім прыходзе і крыжы я хацеў выдаць і нават здаў іх у камп'ютарны набор, але паявіліся новыя звесткі, якімі будзе папоўнена маё выданне. З выкарыстаннем сабраных мною матэрыялаў былі напісаны студэнтамі 3 магістарскія працы. Аўтар адной магістарскай работы ў падзяцы прывёз мне шакаладку, другі падзякаваў па тэлефоне за гістарычныя інфармацыі, а трэці — нават не адазваўся, — сказаў айцец Яўгеній Падгаецкі.

Гістарычны крыж чакае поўнай кансервацыі і выканання агароджы. З'явілася ідэя выступіць за сродкамі на кансервацыю да ваяводскага захавальніка помнікаў даўніны. Дырэктар Публічнай гарадской бібліятэкі Ала Грыц надалей папаўняе свае гістарычныя матэрыялы пра Гайнаўку. Зараз збірае новыя звесткі аб жыцці, дзейнасці і духоўнай працы мітрафорнага протаіерэя Антонія Дзевятоўскага, шматгадовага настаяцеля і галоўнага будаўніка Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы (Ала Грыц з'яўляецца сааўтарам кніжкі аб айцу Антонію). На сустрэчы, якую вяла віцэ-старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія і заадно гайнаўская радная Ева Рыгаровіч, прысутнічаў духоўны апякун брацтва іерэй Марк Юрчук са Свята-Троіцкага сабора. Ева Рыгаровіч хадайнічае аб адкрыцці ў Гайнаўцы непублічнага прадшколля пад апекай брацтва. Плануе ладзіць шматлікія праваслаўныя паломніцтвы з прыпушчанскага горада ў манастыры Польшчы, Беларусі, Украіны і Расіі. Арганізаванне сустрэч на тэму мясцовай гісторыі — цікавая і вартасная прапанова гайнаўскага праваслаўнага брацтва. Вельмі добра гісторыю Гайнаўшчыны і праваслаўя ведае, мітрафорны протаіерэй з Рыбалаўскага прыхода, доктар Рыгор Сасна які з'яўляецца аўтарам і сааўтарам шматлікіх выданняў па гісторыі Гайнаўшчыны. Варта было б запрасіць айца Рыгора, каб распавёў хаця б пра святыя месцы ў Гайнаўскім павеце, якія апісваў у сваіх выданнях.


Дырэктар Публічнай гарадской бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц расказала пра колішняе жыццё на тэрыторыі Белавежскай пушчы і пра гісторыю Гайнаўкі


Інфармацыю пра крыж і яго гісторыю сабраў протаіерэй Яўгеній Падгаецкі са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Пачалі рамонт маставой!

Солтыс Новага Ляўкова не шкадаваў свайго часу, каб толькі аднавілі маставую на ваяводскай дарозе № 687, якая вядзе з Юшкавага Груда цераз Новае Ляўкова ў Нараўку і далей у Навасады. Найгоршы быў яе адрэзак перад Новым Ляўковам, у вёсцы і далей у напрамку Плянты. Солтыс выступаў з такім пастулатам на сесіях нараўчанскай Гміннай рады, двойчы ездзіў у Беласток да дырэктара Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог, пісаў у „Ніву" і дамагаўся, каб рамантавалі вышэйзгаданую дарогу.

Апошнім часам у „Ніве" (№ 16 і 19) пісаў я пра свае хадайніцтва адносна неабходнасці рамоту, палемізуючы з намеснікам дырэктара ППВД Міраславам Ганчаруком, які адказваў так, абы збыць ляўкоўскага солтыса.

Солтыс выступіў з пільнай патрэбай рамонту кавалка ваяводскай дарогі на сесіі Гміннай рады 30 чэрвеня г.г. і войт Нараўчанскай гміны 1 ліпеня г.г. піша службовае пісьмо да ППВД:

„Uprzejmie informuję, że na sesji Rady Gminy Narewka w dniu 30 czerwca 2014 r. sołtys sołectwa Lewkowo Nowe Pan Jan Ciełuszecki zgłosił pilną potrzebę poprawy stanu nawierzchni odcinka drogi wojewódzkiej nr 687 od wsi Planta do drogi do cmentarza w Lewkowie Nowym. Proponował wykonanie na tym odcinku „nakładki asfaltowej". Zły stan nawierzchni drogi stwarza zagrożenie bezpieczeństwa ruchu drogowego".

Рамонт маставой пачалі ад дарогі да могілак у напрамку Новага Ляўкова 4 ліпеня г.г.! Намаганні солтыса не прапалі дарма. Солтыс мо крыху і назойлівы (калі трэба) ды настойлівы ж і неадступны ажно да вырашэння справы. І ўдалося!

Варта дадаць, што паводле нядаўняга плебісцыту штодзёнкі „Gazeta Współczesna" на найлепшага солтыса ў Падляшскім ваяводстве, які закончыўся 29 чэрвеня г.г., солтыс Новага Ляўкова — трэці!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Мучэнне з лясной звярынай

— Адны непрыемнасці з дзікамі, — гаворыць жонка кузаўская пенсіянера Міхася Бішчука. — Пасадзілі бульбу пад Чаромхай-Вёскай. Паміж пасевамі ў гэтым квартале адно тры ўчасткі з бульбай. І маем праблему: дзікі ўнадзіліся. Растапталі поле ўздоўж ды ўпоперак. Быццам бульдозер прайшоў. Зрабілі агароджу. Участак немалы, сорак сотак поля. Шмат драўняных калочкаў ды шпагату спатрэбілася. Паразвешвалі фольгавыя мяшочкі. Ці гэта адпудзіць звярыну? Цяжка сказаць. Дзікі так асвоіліся, што пад забудову прыходзяць.

— Але не адна з дзікамі праблема, — прыбаўляе Міхась. — Лісы развяліся. Курэй з панадворка крадуць. Некалькі дзён таму ліс схапіў курку і... драла. Сын угледзеў і давай нахабніка гнаць. Ліс курку пакінуў. Жывая засталася, адно пёркі выскубаў. За стадоламі, на „Карпінскага гары", — працягвае сябра, — лісы водзяцца. Малых маюць, таму пад забудовы падыходзяць, каб птушку схапіць ды маладым ежу занесці. Апрача лясной звярыны маем праблему з бабрамі. Процьма іх над нашай рэчкай. Ссякаюць дрэвы, будуюць платы. Вада залівае навакольныя сенажаці. І што скажаце? Бабры ж пад аховай знаходзяцца, — завяршае калега. — Адно мучэнне з гэтай звярынай.

**Уладзімір СІДАРУК**

**Купальская традыцыя вельмі старажытная. Як каляндарнае азначэнне часу ўпамінаецца купальскае свята ў старажытнабеларускіх граматах XIV-XV стст. Купалле — адно з найстаражытнейшых і любімых у народзе святаў. Гэта свята вяршыні лета, росквіту прыроды, выяўлення яе магутных сіл, а таксама ў гонар сонца, якое ў гэты час дасягае свайго апагею.**

# „Купальночка" пад дажджом



За дзень або два да Купалля моладзь дамаўлялася, што браць з сабою. Дзяўчаты і маладзіцы звычайна неслі закуску, хлопцы — піўо, а ўсё на хвалі мелодыі купальскай песні, якая заклікала ўсіх ісці на гулянне. Вечарам распальвалі вогнішча, рассаджваліся навокал і наладжвалі баляванне ў гонар Купалінкі. Спявалі купальскія песні, весяліліся, танцавалі. Ладзілі вакол агню карагод і выбіралі Купалінку, прыгажуню, якая ўмее кахаць і шумна святкаваць, галасістую пявунню ды гарэзлівую танцорку. Ёй надзявалі вянок на галаву, адзначаючы гэтым лепшую дзяўчыну.

Паводле павер'яў купальскі агонь меў чароўную сілу. Калі на ім дзяўчына спальвала волас каханага, той адказваў ёй узаемнасцю. Апоўначы самыя адважныя ішлі шукаць таямнічую папараць-кветку, пры тым марылі пра самае запаветнае.

У суботу, 12 ліпеня гэтага года, Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) ладзіў традыцыйнае летняе святкаванне купальскай ночы. Яно пачалося а гадзіне 19.30. Жыхары Нараўшчыны мелі магчымасць паглядзець мастацкія калектывы з Беларусі, „Верасы" з Монькаў, „Прымакоў" з Міхалова, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і „Нараўчанкі" з Нараўкі. Свае — з Нараўкі і з Ляўкова — маюць нагоду аглядаць летам на беларускіх фэстах у Альхоўцы, Старым Масеве, Старым Ляўкове і ў Семяноўцы ды на розных мерапрыемствах (найчасцей у суботу або ў нядзелю) у амфітэатры ў Старым Дварах над Семяноўскім возерам. З-за ўсходняй мяжы прыехалі „Галасы Палесся" з Брэста, „Арліца" і „Вечарынка" з Камянца ды „Бабінае лета", „Спатканне" і „Надзея" з Пружан.

Сёлета на Купаллі амаль бесперарыўна падаў дождж. Добра, што нараўчанскія гмінныя ўлады пабудавалі перад сцэнай у амфітэатры спецыяльную паветку, пад якой можна схавацца ад пякучага сонца або ад дажджу. На Купалле дождж падаў і ў папярэднія гады, мо толькі не такі праліўны, але ноччу бывала халадней чымсьці сёлета.

Першым выступіў фальклорны калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова з песняй „Купалінка". Быў гэта 855 выступ гэтага гурту на сцэне. За ім выступілі „Верасы" з Монькаў у народных касцюмах і з шасцю народнымі польскімі песнямі.

Затым на сцэну паклікалі мастацкія калектывы з Пружан: „Бабінае лета", „Надзея" і „Спатканне". Усе яны выступілі ў прыгожых народных касцюмах і з прыгожымі беларускімі песнямі. У спяваючых жанчын з Палесся мілагучныя галасы. Асабліва запомніліся мне частушкі ў выкананні „Бабінага лета", тры песні „Цячэ вада ў ярок", „Абручальнае калечка" і „Калінавы белы цвет" калектыву „Надзея" ды „У садзе рэчанька" гурту „Спатканне" (калі спяваў апошні з іх гукі музычных інструментаў заглушвалі словы ўсіх трох песень, якія ён спяваў).

Каля 21-й гадзіны на сцэну выйшаў шматлюдны калектыў „Галасы Палесся" з Брэста. Жанчыны ў народных уборах прыгожа спявалі і танцавалі. Іх галасы заззвінелі як тыя званочкі, калі выконвалі першую песню са свайго рэпертуару „Звіняць, звіняць званочкі". Затым паплылі песні „Шэрая лашадачка", „Czerwone jabłuszka", „Цячэ вада ў ярок" (перад імі ўжо спявала яе „Надзея" з Пружан) і „Ночка з вечарам".

А гадзіне 21.15 выйшла на сцэну „Вечарынка" з Камянца з гарманістам (у ёй спявае сем чалавек). Калектыў найперш заспяваў „Купалінку" (яе мелодыя падчас фэсту прагучала шмат разоў і быў гэта гімн ліпеньскага магічнага вечара і ночы), затым „Купала на Івана", „Сівы конь бяжыць", „Ой там крыніца", „Ой у лузе пры даліне" і „На вуліцы грымата". Некаторыя песні — як бачым — былі неяк дапасаваныя да атмасферы вечара, але і грымотаў не толькі на вуліцы. Якраз у той час на небе бліскалі маланкі і гром грозна грымеў. Прайшоў сапраўдны лівень. Паўсюдна навокал паплылі ручайкі.

Канцэрт прадаўжаўся. Тры песні праспявалі восем спявачак калектыву „Нараўчанкі", у тым ліку „Там у полі вярба" і „Плакучая гітара". За гэтым мясцовым гуртам выступіў калектыў „Арліца" з-пад Камянца (гурт налічвае 11 чалавек). Праспяваў ён беларускія песні, у тым ліку папулярную „Вёсачку" і частушкі. На акардэоне прыгожа іграла жанчына з гурту „Арліца" (была гэта ацэнка, між іншым, майго сябра Мікалая Варанецкага, які таксама ўмее граць на гэтым інструменце). Напярэдадні Купалля спадар Мікалай (як рэпрэзентант „Нараўчанак") быў на сустрэчы з замежнымі беларускімі калектывамі ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы і ўжо тады пазнаёміўся з некаторымі музыкантамі і спевакамі.

Зоркай вечара былі шыракавядомыя міхалоўскія „Прымакі". Як пачалі спяваць і запрашаць да танца, ніхто не адмовіў. Былі гэта танцы пад ліўнем! «І ўсе ручкі ўгору і ляпаем» — плылі заахвочванні са сцэны. Моладзь толькі чакала гэтага. Стройныя ды хвацкія дзяўчаты (так, так зараз гэта яны такія) і куды менш зухаватыя ад іх юнакі танцавалі з такой бравадай і імклівасцю быццам паўз сцэны імчала і імчала славутая Пагоня, якой, як спяваецца ў песні, не стрымаць, не спыніць. Вось дзе маладыя паказваюць сваю энергічнасць.

Голасна гучалі вядомыя песні „Прымакоў": „Каб здаровымі былі", „Ты і я навекі", „І я прымак, і ты прымак", „Смэрэко", „За што мне такая дзяўчына" ды самая новая „Ты думай, думай" (2 жніўня г.г. будзе ў Міхалове „Прымацкая бяседа" і там можна будзе купіць новы кампакт-дыск калектыву з гэтай мелодыяй).

У той жа час конкурсная камісія падвяла вынікі на найпрыгажэйшы купальскі вянок з летніх кветак. Дзевяць вянкоў звілі мастацкія нашыя і замежныя калектывы. Члены журы падалі толькі нумары ўзнагароджаных вянкоў і хутка сышлі са сцэны. Праінфармавалі толькі, што прызначылі адно першае месца, адно другое і два раўнапраўныя трэція. Часу ім не хапіла сказаць, якім калектывам? У мінулыя гады вянкі ацэньвала публіка і ўсё было вядома.

Быў, у адпаведнасці з традыцыяй, і палаў высокім агнём касцёр на беразе ракі. Гарэлі факелы. Вакол весела звінелі музыка і шумныя танцы. Панаваў прыемны настрой. Сёлета ніхто не хацеў у вялікі дождж ісці шукаць таямнічую папараць-кветку. Раптам паявіўся смяльчак Марк Мароз з Гайнаўкі, які скочыў у сцюдзёную ваду рэчкі Нараўкі і вылавіў вянок, які пусціла на ваду дзяўчына. Ён стаў зоркай вечара.

І ўжо традыцыйна былі каляровыя фераверкі. І доўга грымела музыка ў амфітэатры над ракой (граў і спяваў калектыў „Avanti" з Васількава). І моладзь танчыла, танчыла і не хацела разыходзіцца дамоў. На кароткa толькі адыходзілі ў цемень ночы некаторыя парачкі. А колькі той ноччу было гарачых пацалункаў і прызнанняў у каханні! Усе весяліліся. Чароўная, магічная ліпеньская мокрая ноч 2014 года стала над Нараўкай.

У дамах у мястэчку доўга за поўнач не гасла святло. Яго жыхары не клаліся спаць. Пасля поўначы яшчэ працавалі прадуктовыя магазіны. У цэнтры гміннай метраполіі сноўдаліся аўтамашыны. Запоўнены былі ўсе аўтастаянкі. Бурліла жыццё ў гмінным асяродку культуры. Вуліцамі што і раз праязджаў паліцэйскі патруль. Музыку з амфітэатра чуваць было ў навакольных вёсках. Яна заклікала на гулянне. На свята вяршыні лета, росквіту прыроды. Купалле, Купалле...



**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Так было, так ёсць

— Гэта, любашанька, турысты натварылі. Жулікі пайшлі і папісалі, — тлумачыць апошнія, хуліганскія выбрыкі на крушынянскай мячэці і мізары васьмідзесяціпяцігадовы Сяргей Макаль. — Татараў ніколі не было тут шмат. Мы заўсёды сябравалі з татарскай сям'ёй Ледзінскіх. Увогуле ўсе тут згодна жылі.



Сяргей Макаль

— Як ніхто да татараў не чапляўся, то і яны добры былі, — ні то ўсур'ёз, ні то жартам падсумоўвае міжканфесійныя суадносіны мой суразмоўца. — Як бы не было, кожны сваю веру шанаваў. Татары маюць сваю мячэць, праваслаўныя — царкву. Касцёла няма. Хацелі польскія пераняць драўляны будынак крушынянскай школы (спадар Сяргей уласнаручна яе будаваў — заўвага аўтаркі). Ужо нават ксёндз пачаў імшу там адпраўляць, але чамусьці ўсё распалася.

Спадар Макаль успамінае сваё ранняе дзяцінства. Шматлюдная вёска, святочныя забавы. Любілі тут танцаваць. Ладзілі іх асобна. У адну нядзелю праваслаўныя, праз тыдзень — каталікі, у трэцюю нядзелю — татары. Хто танцаваў, а хто карыстаўся нагодай, каб пад уплывам алкаголю ўладзіць свае асабістыя разлікі. Усяляк бывала. Татары па прычыне сваёй малалікасці баяліся, не ставіліся што то яны.

— А хто ведае, мо і не ўпіваліся, ім жа веравызнанне не дазваляе. А астатнія як глытнуць, так зараз ідуць татараў рэзаць, саліць, палякаў рэзаць, саліць, кацапаў рэзаць, саліць, — успамінае са спакоем мой суразмоўца. — Помню, аднойчы зімою, пасля такой забавы па снегу пойдзеш, а там крыві поўна. Рэзалі, салілі, усяго хапала, — пераконвае Сяргей Макаль. — Аднаго, Казлоўскага, нават забілі. Вінаўнікі ўцяклі на захад і слых пра іх прапаў. Пазней пачалі ладзіць ужо супольныя, міжканфесійныя патанцоўкі. Тады ў морду даставаў найчасцей той, хто не хацеў дакінуцца да заплаты музыкантам.



Адам Ільясевіч

— Супольна таксама з кудзеляй хадзілі, сёння ў праваслаўнай, заўтра ў татаркі, потым у каталічкі, — пералічвае спадар Сяргей. — Усе займаліся гаспадаркай. У адных была яна большая, у другіх сціплейшая. Гэтыя татары — туркі, — тлумачыць, — калісь вайною пайшлі на Расею. Крыкнуў турэцкі паша: прапаўша доля наша, стрэлы вяртаюць і нас убіваюць. Вайну прайгралі, але зямлі ім надзялілі шмат. Яны ж багатыя былі, — працягвае Макаль сваю легенду, — а тут пераважна бядота жыла. Але трымаліся, сябравалі разам. Татары, як і астатнія ў вёсцы, між сабой гаварылі па-беларуску. Папольску звярталіся толькі да чужых, прыезджых.

Рома і Зюта Ледзінскія вельмі сябравалі з Сяргеем Макалём. На святы хадзілі адны да другіх у госці, дапамагалі ў гаспадарцы.

— Бацькі Ромы і Зюты былі надта акуратныя. Мой татка памёр на сорак пятым годзе жыцця, — успамінае спадар Макаль. — Рабіў у лесе, сканаў ад прастуды. Яшчэ пані Гурэцкая (з маёнтка Гурка) па прозвішчы Заграеўская прыходзіла татку ўколы даваць. Але ён усё роўна памёр, пакінуўшы маму і нас, чацвёра дзяцей. Асірочаную сям'ю ратавала трынаццаць гектараў зямлі. Каб выжыць, абраблялі яе супольна з Ледзінскімі. Сеялі і аралі, як калісь гаварылася, на трэці сноп. Потым мама прасіла: «Дзеці, ідзіце памажыце ім у полі, усё роўна не маеце работы, пабяжыце, памажыце». У Ледзінскіх таксама было многа дзяцей і яны кепска меліся. Часам і хлеба бракавала.

Калі Сяргей Макаль уладкаваўся на працу ў пэгеэры, недзе на Прусіі, рашыў дапамагчы сваім суседзям. Узяў пару хлопцаў, у тым ліку Ледзінскага і Чыжэўскага, з сабою. Кіраўнік пэгеэра родам са Случанкі, пабачыўшы кандыдатаў, сказаў: «Ой, Сярожа, чаму ты такіх маладых прывёз. Мне ж за іх адказваць». Усё-такі злітаваўся над іх гаротнымі, шматлюднымі сем'ямі. На будову не пасылаў, бо надта небяспечна. Хлопцы ў асноўным займаліся прыбіраннем складоў. **Так было**.

* * *

Саракадзевяцігадовы Адам са славутага татарскага роду Ільясевічаў задае сабе пытанне, як увогуле гэта сталася. Ён упэўнены, што мячэць і мізар апаганілі не мясцовыя. У Крушынянах жыве ён дзесяць гадоў. Дастаткова доўга, каб зарыентавацца, што модныя слова «талерантнасць» нават не падыходзіць да мясцовых.

— Пра іх лепш сказаць нармальная, людская справа, — канстатуе Адам Ільясевіч. — Суседзі прызналіся, што іх магчымае сутыкненне з вінаўнікамі магло б завяршыцца надта трагічна. Жывем тут разам ужо некалькі стагоддзяў. Зімой, расчышчаючы вуліцу ад снегу, не разлічваем на Раён публічных дарог, толькі на суседзяў. Сёння я таксама памог. Скасіў траву. Ніхто спецыяльна не настойваў. Зрабіў, бо проста быў у змозе. Гэта ўжо ўвайшло ў кроў мясцовым. Ніхто не карыстаецца тут катэгорыямі каталік, татарын ці праваслаўны. Некалькі гадоў таму наведала мяне пажылая жанчына — яўрэйка. Шукала імама, які апошняй вайной выдаў для яе бацькі пасведчанне, што ён — татарын. Былі ў мяне таксама маладыя людзі, з якімі падаліся мы на крынскі кіркут. Адзін з іх меў з сабой каменьчык. Палажыў яго на мацэву. Зрабіў гэта ў цішыні. Людзі вяртаюцца, шукаючы сваіх каранёў на праваслаўных могілках, на мізары. Ніхто не цікавіцца ці іх продкі жылі тут адно ці два стагоддзі. Проста, жывем, сустракаемся. Вялікія словы тут непатрэбныя. Прысылаюць мне пісьмы, просяць пра дапамогу ў пошуках продкаў. Заўсёды з задавальненнем памагаю. Нават і сёння прымаў нейкіх людзей. Прыехалі на два дні, але рашылі застацца даўжэй. Захапіліся вёскай, магчымасцю сустрэчы з чалавекам. Дастаткова сесці на лаўку з дзядулем ці бабуляй, якія заўсёды пачастуюць гарбатай ці проста шклянкай вады. Тут адчуваеш сябе канкрэтным чалавекам. **Так ёсць**.

Тэкст і фота Іааннны ЧАБАН

## Справы для солтысаў

Жыхары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета са сваімі некаторымі патрабаваннямі звяртаюцца да солтысаў. Справы бываюць самыя розныя. Сяляне ідуць да солтыса, калі ўтварыліся ямiны ў дарожных маставых, калі падае ціск вады ў водаправодзе, калі не свеціць электралямпачкі вулічнага асвятлення і г.д. Бываюць справы іншага характару, як, напрыклад, чаму няма раскладу язды аўтобусаў ПКС, або калі пойдзе грэйдар і падраўняе гравійку.

Жыхары Лешукоў, Ахрымоў і Семяноўкі прасілі дамагацца ў войта пабудовы тратуараў у іх вёсках. У Лешуках і Ахрымах тратуараў увогуле няма, а ў выпадку Семяноўкі — на тамашняй вуліцы Школьнай.

Солтыс Новага Ляўкова мае заняцца пабудовай электраўстаноўкі вулічнага асвятлення ў прысёлку. Новаляўкоўскі солтыс далей будзе хадайнічаць, каб Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог адрамантавала асфальтавую маставую на адрэзку перад Новым Ляўковам, у гэтай вёсцы і за вёскай у напрамку Плянты і далей Нараўкі. Солтыс ездзіў у ППВД у Беластоку ў гэтай справе двойчы. Дарожныя службы „залепяць" бітумічнай масай нейкія дваццаць ухабін у маставой і гэта ўсё. Намеснік дырэктара абяцаў солтысу, што зробяць г.зв. накладку, іншым разам сказаў „налеўку" сёлета яшчэ перад Вялікаднем і толькі таго, што сказаў.

У Новым Ляўкове рамонту патрабуе вуліца цераз усю вёску. Гэта ўжо павятовая дарога. Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы на высланае да яго пісьмовае патрабаванне рамонту таксама пісьмова адказала, што будуць рамантаваць тады, калі будуць мець на гэта грошы. Грошы тыя папалам павінна даць — як інфармуюць — Гмінная ўправа ў Нараўцы. Інакш з пабудовы новай маставой нічога не атрымаецца. Па гэтай дарозе вязуць цэглу вялікія грузавікі са сараляўкоўскай керамічнай фабрыкі на будаўнічыя пляцоўкі ў краіне. Старая маставая ламаецца пад іх цяжарам, у ёй многа трэшчын.

## Найвышэйшы дуб у пушчы

У Белавежскай пушчы расце многа дубоў-волатаў. Яны цешаць нас сваёй магутнасцю і прыгажосцю. Шмат стройных дрэў гэтай шляхетнай пароды ліставых расце каля пушчанскіх вёсак у Дубіцкай, Гайнаўскай, Нараўчанскай і Нарваўскай гмінах. Прыгожыя дубы цешаць зрок у наваколлі Лазіц, Пераходаў, Падбаравіскаў, Падваськаў, Крыніцы і Плянты ды ў Свінароях, а таксама ў Гайнаўцы. На некаторых дубах начэплены спецыяльныя зялёныя бляшкі-паметкі помнікаў прыроды.

У даліне лясной рэчкі Арлоўкі (прыток ракі Нараўкі) у Белавежскім нацыянальным парку расце найвышэйшы звычайны дуб у Еўропе. Мае ён 42,6 м вышыні, а яго пень мае ў абхваце 540 см. Гэты экземпляр высокага дрэва знаходзіцца ў добрай форме. Каля найвышэйшага дуба расце яшчэ некалькі крыху меншых ад яго ды вакол тут выступае гушчар.

Варта дадаць, што дагэтуль у нашай частцы свету другі такі дуб расце ў Заходняй Еўропе. Мае ён 41,2 м вышыні ды акружнасць пня ў 320 см.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# З патрэбы сэрца

У час Сустрэч „Зоркі”, мы мелі магчымасць сустрэцца са спадарыняй Кацярынай Рэент. Яна расказала нам пра тое, як разам з вучнямі даглядае месцы спачыну важных людзей. Спадарыня Кася сабірае ў сваёй школе ў Нараўцы ахвотных дзяцей і кожны год ездзіць з імі ў вёскі Тарнопаль, Ляўкова, Ахрымы, Заблотчына, Свінарoі, Нараўка, а нават у Міхалова. Там прыбіраюць магілы і ўпрыгожваюць іх вянкамі, сплеценымі з яліны і каляровай паперы, уласнымі рукамі.

З асаблівай увагай яны ставяцца да патронкі сваёй гімназіі — Тамары Саланевіч. Не забываюць яны і пра жыдоўскія, рускія і нямецкія магілы з часоў Другой і Першай сусветных войнаў. Спадарыня Кася кажа, што ўсё, што яна робіць, выплывае з патрэбы сэрца. Маладыя людзі, паводле спадарыні Кацярыны, робяць гэта з вялікай ангажаванасцю. Яна кажа, што хоча, каб хтосьці ў будучыні заняўся таксама яе магілкай. Мяне гэта вельмі ўзрушыла, гэтыя словы я запамятаю.



Кацярынай Рэент (усярэдзіне)

Ці цяжка падаць прыклад для маладых людзей?

Не, калі нешта робім з патрэбы сэрца.

„Тое, што робім, больш патрэбнае для нас, жывых, чым для нябожчыкаў”, — сказала наша госця. Спадарыня Рэент расказала нам таксама пра сваю вёску Лешукі. Там жыве многа народных паэтаў. Шкада, што месца зарастае пушчай.

На канец мы атрымалі многа цукеркаў ад пані Касі. Яна сказала, што мясцовыя людзі, ніколі не ідуць у госці з пустымі рукамі.

**Уля Марчук**
— „Пушчанскі голас”

**Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ,**
***Нараўка***

## Успамін

Спякотнае лета,
Калі сонца заходзіла як камета.
Тады я ў кніжцы з марамі,
Зусім далёка думкамі
Кудысьці палямі ішла.
Раптам дубіна вырасла,
І рака акаляла бярозку.
На кругаглядзе відаць вёску.
Неба пакрылася хмарамі,
Пачаставала зямлю кроплямі.
Пах кніжкі змяшаўся.
Ва ўсё пачуццё ён удаўся.
Увесь свет блішчаў
у кроплях дажджу...
А цяпер ужо восень прыйшла.
Я кніжку побач паклала,
Галаву над сшыткамі схіліла.

# ПУШЧА — дом звяроў і птушак

Белавежская пушча — адзін з найстарэйшых лясоў Еўропы. Тут растуць магутныя дубы. Пад дубамі часта з’яўляюцца дзікі, бо жалуды — найбольшыя прысмакі гэтай жывёлы. У пушчы шмат іншых дрэў, важных для птушак і звяроў. Найбольш вядомы звер у Белавежскай пушчы — гэта зубр. Ён — сапраўдны кароль старажытнага лесу, увасабляе сілу і прыгожасць. Зубр з’яўляецца сімвалам Падляшша. Яго выяву знойдзем у лагатыпе нашага рэгіёна.

**Крыстыян Паскробка**
— „Сустрачанская скрыня”



# Свіцязь

На беларускіх землях існуе легенда пра возера Свіцязь. Пра яго баюць казкі, легенды, а таксама складаюць балады, вершы, паэмы. Адным з такіх твораў з’яўляецца балада Адама Міцкевіча. Яна дачакалася экранізацыі. Аўтар фільма — Каміль Поляк. Музыку для фільма напісала Ірына Багдановіч, дырыжорка праваслаўнага хору. Музыка фільма ў многім напамінае нам набажэнства ў царкве. Такія думкі наклікаюць вобразы. Фільм „Свіцязь” гэта анімацыя, дзе людзі і горад выглядаюць як на старых іконах часоў сярэднявечча. Дзеянне фільма адбываецца ў мястэчку ля возера. Рэкруты рыхтуюцца да вайны з непрыяцелем. Людзі плачуць і лямантуюць. Просяць Бога пра збаўленне. Вораг перамагае і бярэ ў палон мястэчка. Жыхары ўцякаюць у царкву. Пачынаецца аблога. Ці ворагі будуць панаваць над людзьмі? Якую неспадзеўку скрывае возера?

Даведаецеся, калі пабачыце фільм Каміля Поляка „Свіцязь”.

**Максім Фіёнік**
— „Пушчанскі голас”

**Эва Аврчук**
**— „Пушчанскі голас”**

## Памяць

**Некалькі слоў пра памяць?**
**Калі ласка, памятайце,**
**Яна мімалётная.**
**Штосьці яшчэ?**
**Калі пра яе не дбаем,**
**Памяць знікае.**
**Памяць можа быць дрэнная**
**або добрая,**
**Гэта не важна.**
**Важна, каб яна была**
**крыніцай ведаў**
**Пра людзей, якіх ужо няма,**
**Пра жыццё, якое ўжо мінула**
**І ніколі не вернецца.**



# Сонная вуліца

Прыснілася мне сёння нешта дзіўнае. У соннай мары пабачыла я сваю вуліцу. Цяжка ўдакладніць што, але штосьці з ёю было не так. На першы погляд быццам усё ў парадку, але калі ўвайшла я на адзін з вулічных панадворкаў, умацавалася ў сваіх падазрэннях. На вялікіх ліпах замест шэра-бронзавай кары былі сіне-ружовыя кропкі. Кветкі ў прыхатнім агародчыку вырасталі дагары нагамі, значыць, каранямі ўверх. Са здзіўленнем я заменціла, што калі іх перавярнуць, жоўтае, чырвонае і сіняе суквецце мяняецца ў шэры попел. У агародзе стаяла таксама вядомая мне сабачая будка. Падышоўшы бліжэй, каб прывітацца з маім суседам Асікам, на сваёй далоні пабачыла я лапу невядомага мне ката. Кот аказаўся не толькі невядомым, але і незвычайным. Сваё задавальненне ад сустрэчы ён праяўляў віляючы надта кароценькім, пухкім хвосцікам і натапырыўшы вялікія, сабачыя вушы. Каб сваім здзіўленнем не напалохаць незвычайнай, але ветлівай жывёлінкі, я направілася да хаты цёткі Ніны — гаспадыні панадворка. Мне вельмі хацелася рассакрэціць напатканыя дзівы. Не хто іншы як цётка Ніна магла б мне ў гэтым дапамагчы. На жаль, нешта сталася з клямкай увахадных дзвярэй. Яна ўцякала мне з рукі. Пасля некалькіх спроб схапіць яе я здалася. Надаелі мне таксама не зусім зразумелыя непадзяванкі. Рашыла я пакінуць цётчын панадворак і вярнуцца дахаты. Перайшоўшы вярхом праз плот — клямкі ж не працавалі — я зноў апынулася ў акружэнні аднолькавых панадворкаў. Аднолькавыя ката-сабакі шпацыравалі паміж перавернутымі дагары нагамі кветкамі, альбо лазілі па сіне-ружовых дрэвах. Ішла я гадзіну, потым другую, а вуліца не канчалася. Да таго ніводная іншая вуліца не паяўлялася на гарызонце, не было таксама відаць яе пачатку ні канца. У сонную аднастайнасць вядомай-невядомай вуліцы ўварваліся нешта мне напамінаючыя гукі. Чым хутчэй я да іх набліжалася, тым больш выразнымі яны станавіліся. Раптам прабуджэнне: я на падлозе, пад ложкам, а побач мой мабільнік „Славянскай крывёю" абвяшчаючы сем гадзін раніцы.



**Юля ВОЛЧУК**

Дапамога і пераклад Іаанны Чабан

*Юля Воўчук, 12 гадоў. Жыве ў Крынках з мамай Эвай, бацькам Аляксандрам і малодшай сястрой Ніхай. Найбольш ёй падабаецца сабачка Пушок. Фантастычныя апавяданні і вершыкі складае з сёмага года жыцця. Заразілася ад мамы, у якой вялікая калекцыя дэтэктываў і кніжак з кругу фантастыкі.*

**Іаанна Чабан**

Здымак **Юлі Волчук** з архіва ГАК

# Сустрачанская хроніка (4)

У пятніцу наведала нас многа гасцей. Яны прывезлі з сабой многа расказаў, прэзентацый і падарункаў. Спадарыня Кася Рэент прыехала да нас з недалёкіх Лешукоў. Яна працуе ў школе ў Нараўцы. Разам з вучнямі даглядае магілы заслужаных людзей і безыменных герояў. У цэнтры ўвагі магіла Тамары Саланевіч і яе маці Вольгі. Калі прыходзіць Свята памерлых, спадарыня Кася едзе з вучнямі ў Міхалова прыбраць месца спачыну кінарэжысёркі. Часта, калі рыхтуюць вянкі з елкі і кветак, размаўляюць пра фільмы і герояў Тамары Саланевіч. Імя рэжысёркі прысвоенае Гімназіі ў Нараўцы.

Пасля абеду мы сустрэліся з рэдактар Дыянай Нахіла, якая распавяла нам пра сучасныя трэнды ў модзе. Мы мелі нагоду многаму навучыцца а пры гэтым і пагуляць. Галоўным героем былі расліны і іх роля ў сучасным дызайне. Мы паглядзелі праекты сусветных праектантаў, якія натхняліся звычайным лістком або мікрачасцінкамі драўніны. Ад пачатку чалавек хацеў наладзіць свой дом па ўзору прыроды. Самым любімым матэрыялам з'яўляецца дрэва. Дзякуючы яму наш дом становіцца выгадным, прыгожым і здаровым...

*(працяг будзе)*



## Вершы Віктара Шведа

### Сварка без сведкаў

— Калі сварымся з жонкай
Робім гэта без сведкаў.
Выганяем навонкі
Тады нашыя дзеткі.

— Цяпер толькі мы гэтак
Развязалі задачу:
Чаму вашых мы дзетак
Заўжды на вуліцы бачым.

### Адкуль толькі злосці?

— Чаму ты выпіўшы, тата
Такі ласкавы, вясёлы,
А калі цвярозы, раптам
Злосны ты як крамола?

Чаму ў табе толькі злосці,
Адкуль гэта метамарфоза,
Якая ўзнікла з чагосьці?
— Таму хіба, што я цвярозы.

### На што трэба глянуць?

Настаўнік нечакана
Пытаецца: — Макар,
У што ты мусіш глянуць
Ці маеш чысты твар?

Да люстэрка ў ваннай
Макар не прывык:
— Думаю, што глянуць
Трэба на ручнік.

### Ежце садавіну

Маці згодна з модай
Хваліць садавіну,
Многа ў ёй заўсёды
Розных вітамінаў.

Кажа Ясь-гарэза:
— Слухаю з трывогай.
Яблык я парэзаў,
Не знайшоў нічога.

## Польска-беларуская крыжаванка № 29

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 25:

Маг, веласіпед, вар, тады, касач, Алёна, транс, тон. Панама, ластаўка, хмара, Ас, час, гіт, палёт, след, но, звон.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Барташ Ламашкевіч з Нараўкі і Наталля Ніканюк з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Szyfr | Jan | Zaufanie | | | Na / Dworek | Saga | | Tajemnica |
| | | | Adres / Racja | | | | | |
| Dzwoneczek | Ar / Dzwon | | | Nie | | O! | | |
| Wiatr | | | | | | | | |
| Gwiazdy | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | Kret | | | | |

— Напэўна, трэба заахвоціць вучня да ўдзелу ў конкурсах, такім таксама, — сказала Ніна Абрамюк з Комплексу школ у Нарве. Бо вынік шмат у чым залежаў ад настаўнікаў, перш за ўсё беларускай мовы, якія задбалі аб удзел сваіх вучняў у агульнапольскім конкурсе „Пазнай Беларусь“. А гэта былі настаўнікі з Гайнаўкі, Бельска, Беластока. І поспех вучняў гэта таксама іх поспех.



Фотаздымак Аляксандры Якімчук



Гайнаўскія белліцэісткі (злева): Аляксандра Якімчук, Маргарыта Парфянюк, Агнешка Папова не першы раз перамагаюць у конкурсе

# Пяты раз «Пазнаем Беларусь»

Што тут убачым: беларускія кветкі, краіну пад белым бусліным крылом, архітэктурныя помнікі, храмы, хаты... І рэспубліканскія беларускія, і тутэйшыя знакі таго, што ёсць радзімай. Паказанае рознымі мастацкімі тэхнікамі. Бачанае вачыма маладога чалавека.

17 чэрвеня ў сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбылося падвядзенне і завяршэнне агульнапольскага конкурсу «Пазнай Беларусь». У конкурсе прынялі ўдзел амаль 300 асоб — ад дашкольнікаў да ліцэістаў.

Конкурс «Пазнай Беларусь» з'яўляецца адзіным падобнага кшталту мерапрыемствам у практыцы дзейнасці замежных устаноў Беларусі і накіраваны на зацікаўленне гісторыяй і культурай, сучасным жыццём Беларусі шырокіх колаў польскіх дзяцей і моладзі. Конкурс гэты быў аб'яўлены Культурны цэнтрам Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча ў першы раз на пачатку 2009 года для моладзі, пражываючай у Польшчы, зацікаўленай гісторыяй і культурай Беларусі, яе сучасным жыццём, актыўных творчых асоб. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя сярод маладога пакалення беларусаў у Польшчы ведаў пра культуру, гісторыю і сучаснасць Беларусі, садзейнічанне рэалізацыі творчага патэнцыялу дзяцей і моладзі беларускай меншасці ў Польшчы, зацікаўленне грамадскасці праблемай захавання нацыянальнай самасвядомасці сярод беларускай моладзі ў Польшчы. На конкурс могуць быць прадстаўлены работы на польскай і беларускай мовах. Тып выкананых работ уключае ў сябе: малюнак і жывапіс — працу ў любой тэхніцы, фатаграфіі, літаратурны твор, а таксама мультымедыйныя прэзентацыі.



Фатограф Аляксандра Салавянюк – І месца ў катэгорыі 8-12 гадоў



Сямейны ўдзел – Місіюкі

Штогод сярэдні лік удзельнікаў — да 400 маладых людзей у кожным выпуску. Гэта ў асноўным дзеці і падлеткі ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў, зацікаўленыя гісторыяй і культурай Беларусі і беларусаў ды іх сучасным жыццём. Гэта вучні навучальных устаноў у Польшчы, не толькі вывучаючыя беларускую мову. Адзначаюцца арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення. Конкурс праводзіцца пад патранажам КЦБ, епіскапа Беластоцка-Гданьскай епархіі і медыйным Радыё Беласток і тыднёвіка „Ніва“.

Намінацыі конкурсу мелі чатыры ўзроставыя катэгорыі: ад 5 да 7 гадоў, ад 8 да 12 гадоў, ад 13 да 15 гадоў і ад 16 да 19 гадоў. Па кожнай намінацыі вызначаны былі пераможцы па ўзроставых катэгорыях з прысуджэннем дыпломаў першай, другой і трэцяй ступені. Конкурс праводзіўся па намінацыях: лепшы малюнак — пластычная праца пра Беларусь, фотаздымак аб Беларусі ці беларусах, літаратурна-паэтычны твор (апавяданні, вершы, замалёўкі і г.д.), сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям'і“ і мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі. Працы прымаліся да красавіка г.г. На сёлетні конкурс паступіла амаль 300 прац.

Ва ўрачыстасці завяршэння конкурсу прынялі ўдзел выхаванцы дзіцячых садкоў, вучні школ, гімназій і ліцэяў з дадатковым вывучэннем беларускай мовы, бацькі, настаўнікі, сябры. Узнагароджанне пераможцаў конкурсу было спалучана з канцэртам, які падрыхтавалі лаўрэаты дзіцячага фестывалю ў Польшчы „Беларуская песня — 2014“. Выступілі м.інш. дзеткі з ансамбля дзіцячага садка № 14 у Беластоку, Комплексу школ з беларускай моваай навучання ў Бельску-Падляшскім, „Маладое ГДК“ у бел-чырвона-белых строях, вучні праваслаўнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, выхаванцы Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове.

— Мерапрыемства такога кшталту мае вялікае значэнне для распаўсюджання ведаў аб Беларусі за мяжой, узмацнення нацыянальнай самасвядомасці беларускай моладзі ў Польшчы, захавання і развіцця беларускіх культурных традыцый сярод беларусаў замежжа, — заявіў Эдуард Швайко, дырэктар КЦБ. — Конкурс праводзіўся ў першую чаргу дзякуючы БГКТ, у яго сядзібе. Думаю, што сумеснымі намаганнямі будзе таксама выдадзены альбом узнагароджаных прац. Галоўная мэта конкурсу — спрыяць узаемапазнанню нацыянальных культур Беларусі і Польшчы, а таксама развіццю творчага патэнцыялу дзяцей і моладзі.

Кожны ўдзельнік конкурсу адзначаны быў ганаровым дыпломам, а пераможцы конкурсу ўзнагароджаны каштоўнымі прызамі. „Узнагароды самыя розныя, даволі добрыя. Нас падтрымліваюць і перадаюць падарункі самыя розныя ўстановы культуры ў Беларусі, грамадскія і дзяржаўныя арганізацыі. Усе падарункі каштоўныя, прыдатныя ў навучанні і для ўдзелу аўтараў у наступных выданнях конкурсаў.

Узнагароды былі ўручаны дырэктарам Культурнага цэнтра Беларусі Эдуардам Швайко. Некаторыя школы, адкуль было найбольш удзельнікаў, выслалі адмысловую дэлегацыю з настаўнікам ці іншым прадстаўніком школы. З усіх удзельнікаў былі ўзнагароджаны, між іншым, некалькі вучняў Комплексу школ з дадатковым вывучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, якія прыбылі асабіста на ўрачыстасць. І месца ў катэгорыі гімназіі за мастацкую працу атрымала Магдаліна Бэрэзняк. І месца за літаратурны твор атрымала Юлія Пракапюк, а другое месца ў катэгорыі мультымедыйнай прэзентацыі — Лукаш Кендысь. Пералічаныя школьнікі гэта вучні І класа гімназіі ў Гайнаўцы.

У катэгорыі ліцэйскіх класаў узнагароды атрымалі: першае месца ў катэгорыі мастацкіх прац выйграла Моніка Германюк, другое месца — Маргарыта Парфянюк да ў катэгорыі фотаздымак — Аляксандра Якімчук, другое месца — Агнешка Папова, вылучаны працы Яна Барташа Анхімюка...

— Я ахвотна прымаю ўдзел у розных конкурсах, — прызнаўся Хрыстафор Лушчынскі (лаўрэат у катэгорыі літаратурныя творы, катэгорыя 13-15гадоў) з Бельска-Падляшскага. — Вельмі прыемна атрымаць узнагароду для сябе і сваёй школы! З Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім узнагароджана найбольш вучняў — яшчэ і Юлька Залеўская, Клаўдзія Дубацкая, Амелія Брункалля, Мацей Віткевіч, Матэвуш і Аляксандра Брэчкі, Магдаліна Дунікоўская, Сара Канстанцыя Паўлоўская, Аляксандра Зінкевіч, Ганна Філіпюк, Магда Ваўранюк, Анеля Хмур, Дар'я і Паўліна Ёдла, Максім Фіёнік, Якуб Ваўрусевіч, Патрысія Шэрэнас, Аляксандра Тамчук, Давід Бура, Міхал Сіманенка, Іаанна Нікіцюк, Якуб Ваўрусевіч, Эва Аваярчук, Караліна Кавецкая. У пераліку прозвішчаў лаўрэатаў пазнаем асобы вядомыя не толькі ўдзелам у конкурсах, але і актыўнай дзейнасцю ў жыцці школы і беларушчыны, часам і сямейнай. Багата сярод удзельнікаў і лаўрэатаў таксама з Непублічнай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку (настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко), дзе сярод удзельнікаў пераможцы Аляксандра Салавянюк (вялікі мастацкі талент!), Марына Місіюк, Зузанна Кардзюкевіч, Аляксандра Мартыновіч, Піліп Верамчук, Марыся Савіцкая, Агнешка Зданоўская, Агата Усціновіч, Аляксандра Юзафовіч, Ніна Місіюк, Вераніка Кардзюкевіч, Аляксандра Раманюк, Патрык Місіюк з праваслаўнай гімназіі ў Беластоку (мультымедыйная прэзентацыя). Цікава выступілі дашкольнікі — з Бельска (з дашкольнага аддзела ПШ № 2) — Каміль Нявінскі, з Беластока — Каліса Пятроўская (Прадшколле № 14). Выдатна выступілі таксама вучні з Нарвы (Патрысія Чэмерыс), з Нараўкі (літаратаркі Наталля Марчук, Наталля Васько, Анна Радзівончык), ПШ № 2 у Гайнаўцы — Магдаліна Аўласюк, Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы — Паўліна Дмітрук, Юстына Саўчук, Мая Трафімюк, з Комплексу школ з інтэграцыйнымі класамі ў Гайнаўцы — Юстына Акулюк, з Орлі — Ніколя Бялінская. Прыгожа выступілі з творамі пра Беларусь Іга Юзафовіч з Крынак, Наталля Харкевіч з Міхалова, Дыяна Назарук з Чаромхі. Выдатныя працы яшчэ і Монікі Германюк, Маргарыты Парфянюк, Дыяны Леанюк, Аляксандры Якімчук, Агнешкі Паповай (Гайнаўскі белліцэй), Наталлі Карпюк (Бельскі белліцэй). Адной з самых цікавых прац (фатаграфія) з'яўляецца здымак бабулі Аляксандры Якімчук. Дарэчы, фотаздымкі гайнаўскіх белліцэістаў ад пачатку конкурсу «Пазнай Беларусь» вылучаюцца прафесіяналізмам, досціпам і ідэяй.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

У час маёй вучобы дзясяткі гадоў таму, у перыяд г.зв. камуны, наш тутэйшы свет быў іерархічна ўпарадкаваны дамінантнай тады прапагандай; кожны рэальны ці віртуальны суб'ект меў сваё вызначанае месца ў тадышнім сусветным павуцінні. Была, м.інш., і іерархія гітлераўскіх канцлагераў: Асвенцім, Майданак, Трэблінка. Першы з іх і надалей астаецца галоўным суб'ектам у сваёй катэгорыі — час ад часу пра яго шумна і з-за розных падзей, якія здараюцца там і ў сучасны час; час ад часу згадваецца і пра распалажаны ў цяперашніх межах Любліна Майданак. А пра Трэблінку быццам ціха...



# Некраполія нашых гарадоў і мястэчак



Рампа




Трэблінка ж, з ліку трох названых лагераў смерці, распалажана найбліжэй Беласточчыны: яна ў сарака кіламетрах за Цеханоўцам і ў сямі кіламетрах за чыгуначнай станцыяй Малкіня, што ў палове лініі між Беластокам і Варшавай.

Такая тапаграфія Трэблінкі мабыць і стала асноўным фактарам у вызначэнні мясцовасці асаблівай ролі ў ходзе галакосту. Тут менавіта, у сямі кіламетрах ад магістральнай варшаўска-беластоцкай чыгункі, у зацішным месцы пасярэдзіне агульнай тэрыторыі ўстаноўленых гітлераўцамі Генеральнага губернатарства і Беластоцкай акругі, вызначылі яны месца пад лагер смерці — месца ліквідацыі яўрэйскага насельніцтва гэтых дзвюх тэрытарыяльных адзінак. Чыгуначны прыпынак Трэблінка быў зараз за Малкіняй на лініі ў напрамку Седльцаў. Месца цяпер у Косаўскай гміне, на акраіне гістарычнага Падляшша.

Лагер смерці ў Трэблінцы быў заснаваны ў 1942 годзе, працы па яго закладцы пачаліся ў маі-чэрвені, а першых вязняў прынялі 22 ліпеня. Працавала там 20-30 нямецкіх і аўстрыйскіх эсэсаўцаў ды 90-120 украінскіх вахцёраў — былых чырвонаармейцаў, якія пайшлі служыць гітлераўцам. Самі вязні выконвалі розныя будаўнічыя працы, а пасля траплялі ў газавыя камеры, дзе іх душылі выхлапнымі газамі са спецыяльных рухавікоў унутранага згарання.

У лагеры была пабудавана бутафорыя чыгуначнай станцыі з раскладамі паяздоў у тых напрамках, з якіх паходзілі зняволеныя. Тыя расклады мелі ствараць вязням уражанне, што вернуцца яны ў свае мясцовасці, што ў лагеры яны прабываюць толькі часова. Лагер быў абгароджаны калючым дротам, у які было паўтыкана голле дзеля маскіроўкі месца — каб звонку не было відаць, што дзеецца за калючым дротам. Зона гібелі, дзе былі газавыя камеры, была абгароджана і замаскіравана дадаткова. Ахвяры заключалі ў камерах, заводзілі рухавікі і пасля паўгадзіны ўсе ў камеры былі ўжо мёртвыя. У пачатковым перыядзе працы лагера ў газавых камерах за паўтары гадзіны гінула каля чатырох тысяч чалавек — столькі людзей змяшчаў поезд з дваццаці вагонаў. Іншая група вязняў падбірала трупы з камер, іншая — чысціла вагоны...

Васілій Гросман, савецкі пісьменнік і пазнейшы дысідэнт, так быў пісаў пра Трэблінку ў верасні 1944 года: „Сперва у человека отнимали свободу, дом, родину и везли на безыменный лесной пустырь. Потом у человека отнимали на вокзальной площади его вещи, письма, фотографии его близких, затем за лагерной оградой у него отнимали мать, жену, ребёнка. Потом у голого человека забирали документы, бросали их в костёр: у человека отнято имя. Его вгоняли в коридор с низким каменным потолком — у него отняты небо, звёзды, ветер, солнце...". Гэты ягоны артыкул „Треблинский ад" прыводзіўся ў якасці абвінавачання ў час нюрнбергскага працэсу.

Спярша трупы закопвалі ў ямы, але пасля візіту Гімлера ў сакавіку 1943 года, зараз пасля Сталінградскай бітвы, трупы сталі спальваць. Раскопвалі таксама ранейшыя магілы і трупы адтуль таксама масава спальвалі на адмысловых кратах з чыгуначных рэек. Калі спальванне раней пахаваных трупаў набліжалася да канца, а гэта абазначала і ліквідацыю ўсяго лагера, вязні, што асталіся ў жывых, узнялі бунт. 2 жніўня адмысловай адмычкай вязні адчынілі склад ружжа. З тысячы вязняў каля двухстам удалося ўцячы, але канца вайны дачакала толькі каля шасцідзесяці і яны маглі данесці свету пра лагер смерці ў Трэблінцы. Не здарылася б гэта — можа і не надта вядома было б пра той лагер. Лагер смерці ў Трэблінцы спыніў сваю працу на восені 1943 года. Мяркуецца, што загінула ў ім каля 800 тысяч яўрэяў і каля дваццаці тысяч цыганоў; больш людзей загінула толькі ў Аўшвіц-Біркенаў. Пасля паўстання восенню 1943 года лагер быў зліквідаваны, будынкі знесены, тэрыторыя была заарана і пасля частка яе аблесена, а частка засеяна лубінам...

Масавыя ганенні яўрэяў пачаліся з крыжовых паходаў у XI стагоддзі, асабліва на тэрыторыі Нямеччыны і Францыі. Спярша ініцыявалі іх простыя фанатыкі, абвінавачваючы старазапаветных за Хрыстову кроў. Рымскія папы спачатку заступаліся за ганімых, але з часам і яны прынялі антысемітызм на свой шчыт. Каля 1200 года еўрапейцы сталі цікавіцца зместам Святога Пісання, узнімаючы прыхаваны рэлігійны фермент, заводзячы секты. Папа Інакенцій III загадаў высветліць прычыны гэтага неспакою. Духавенства патлумачыла пантыфіку, што гэта яўрэі з'яўляюцца зачынальнікамі неспакою. Тады папа заявіў, што яўрэям наканавана вечнае рабства за распяцце Хрыста, і яны, як Каін, не павінны мець на зямлі спакою...

Калі ў палове XIV стагоддзя ў Еўропе ўспыхнула эпідэмія чумы, у выніку якой загінула каля паловы еўрапейскага насельніцтва, пайшлі слухі, што гэта яўрэі хочуць знішчыць хрысціян, атручваючы ваду ў калодзежах; гэтыя слухі былі найбольш папулярныя ў Нямеччыне. У Швейцарыі нехта пусціў чутку, што яўрэі рыхтуюць ядавітую сумесь з хрысціянскіх цел, павукоў, жаб, яшчарак і пасвячанага хлеба і гэтай сумессю атручваюць ваду... У пачатку XIX стагоддзя ў Нямеччыне паявіліся адкрытыя заклікі да расправы з яўрэямі. Яны знаходзілі послух спярша толькі ў чэрні. З часам „масы" ўзялі справы ў свае рукі — да ўлады прыйшоў Гітлер... Варожасць да жыдоў тлела і на Усходзе — у чэрвені 1906 года ў Беластоку ўспыхнуў пагром, у выніку якога было забіта каля дзевяноста яўрэяў...

Музей на месцы былога канцлагера Трэблінка з'яўляецца філіяй Акруговага музея ў Седльцах; да яго з Малкіні паўтары гадзіны хады. Аднак музейнай экспазіцыі я не наведваў — хапіла мне пабачыць унушальны помнік ахвярам Трэблінкі. Дарога ад шашы да музейнай паркоўкі пазначана інфармацыйным знакам дарогі аднабаковага руху — гэта белая стрэлка ўверх на сінім фоне, гэта быццам **Himmelfahrt** — Узнясенне, канец зямной вандроўкі, дарога толькі ў адзін бок — такая была там дарога соцень тысяч людзей...

Далей — стылізаваная чыгуначная ветка і рампа. За рампай валуны з назвамі дзяржаў, з якіх прывозілі жыдоў у Трэблінку. Валуны былі пастаўлены ў 1964 годзе, у годзе адкрыцця мемарыяла, з назвамі тагачасных дзяржаў. На канцы гэтага шэрагу не падыходзячы да закладной задумы валун Македоніі — ён быў устаноўлены ў 2008 годзе. Варта слоў пару прысвяціць менавіта прысутнасці Македоніі ў Трэблінцы.

Тэрыторыя Македоніі ў час Другой сусветнай вайны была акупіравана Балгарыяй, якая далучылася да вайны на баку Германіі. Нямецкія фашысцкія ўлады запатрабавалі ад балгарскіх саюзнікаў далучыцца да галакосту. Апошнія далучыліся, але падвяргглі перасьледу толькі тых яўрэяў, што жылі на далучаных землях Македоніі і паўднёвай Фракіі; „сваіх" яўрэяў яны не чапалі. 11 сакавіка 1943 года ўсіх македонскіх яўрэяў — каля 7200 чалавек, г.зн. 98% усіх македонскіх жыдоў, сагналі ў часовы лагер у Скопле, а адтуль у жывёльных вагонах перавезлі ў Трэблінку. Па ўсіх іх астаўся след адно толькі ў балгарскіх дакументах; і на валуне ў Трэблінцы...

Далей, на вялікай паляне мемарыяльны комплекс, над якім узвышаецца манументальны блок з сімвалічнай менорай наверсе. А вакол таго блока — мноства гранітных валуноў рознай велічыні; яны сімвалізуюць мясцовасці, якіх жыхары трапілі ў гэты лагер. Гэтых валуноў каля сямнаццаці тысяч — і гэты лік таксама сімвалічны: столькі чалавечых душ маглі адправіць там за суткі гітлераўскія палачы ў **Himmelfahrt** — на смерць. Пасярэдзіне гэтага мора валуноў прамавугольны базальтавы блок сімвалізуючы спаленыя целы.

У мемарыяльным комплексе шмат валуноў з назвамі гарадоў і мястэчак Беласточчыны перыяду гітлераўскай акупацыі. Недалёка ўваходу на тэрыторыю мемарыяла валун, прысвечаны Орлі. Пра арлянскіх яўрэяў шмат на ніўскіх старонках быў пісаў Міхал Мінцэвіч. Там, у Трэблінцы, астаўся па іх бадай адзіны сімвалічны калектыўны след. Тое ж самае можна сказаць і пра іншыя мясцовасці. Бо дакументальныя сляды паасобных людзей не захаваліся — педантычныя немцы гэтым разам улікам „расавай непатрэбшчыны" не займаліся.

Ды і не ўсе мясцовасці, дзе пражывалі яўрэі, пазначаны. Шмат жа там валуноў ананімных — ананімнымі асталіся пахаваныя там людзі, ананімнымі асталіся і меншыя мясцовасці іх пражывання. За час калягадзіннага там прабывання ўдалося мне пабачыць валуны прысвечаныя многім мясцовасцям цяперашняй Беласточчыны, блізкага беларускага замежжа, забужнага Падляшша, Мазовіі, міжрэчча Віслы і Пiліцы...

А кожная з тых мясцовасцей „аддала" ў Трэблінку сотні і тысячы людзей. Як падае партал Штэтл, у Беластоку ў пачатку фашысцкай расправы пражывала каля шасцідзесяці тысяч яўрэяў, у Бельску-Падляшскім — каля шасці тысяч, у Боцьках — каля шасцісот, у Цеханоўцы — каля чатырох тысяч, у Драгічыне — каля сямісот, у Кляшчэлях — каля чатырохсот, у Мілейчычах — каля дзевяцісот, у Орлі — каля дзвюх тысяч, у Сідры — каля трохсот пяцідзесяці, у Саколах — каля дзевяцісот, у Саколцы — каля васьмі тысяч, у Сухаволі — звыш пяці тысяч, у Ваўкавыску — каля васямнаццаці тысяч, у Гродне — каля дваццаці пяці тысяч, у Заблудаве — каля паўтары тысячы...

Мемарыял гэтым сотням і тысячам ахвяр лагера ў Трэблінцы прыхаваны растучым навокал лесам. Па мемарыяле хадзіў толькі я. Калі выходзіў, пад мемарыяльны офіс заехала легкавушка з варшаўскай рэгістрацыяй. Мо ў іншыя дні бывае большае зацікаўленне мінулым насельніцтвам нашых навакольных гарадоў і мястэчак. А мо бывае яно і меншае. Памяць пра мінулае адыходзіць, мабыць, з яе, жывое памяці, носьбітамі...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг

# Алесь БЯЛЯЦКІ ў Варшаве

Падкрэсліў:

— Нам трэба павялічыць кантакты чалавека з чалавекам у Беларусі і ЕС (згадаў аб неабходнасці знізіць кошт візаў і ўвядзення малога прыгранічнага руху з краінамі-суседзямі з Беларуссю — М. Х.), што вельмі важна для фармавання шырокага грамадзянскага мыслення. На сёння Беларусь знаходзіцца на цывілізацыйным разломе: куды ісці? Пытанне асабліва цяпер стала надзвычай вострым, з улікам сітуацыі ва Украіне: няхай гэта будзе шэсць губерняў Расійскай імперыі на працягу дваццаці гадоў, або некаторы тып шырокай зоны Абхазіі ці Прыднястроўя (ці не дай Бог, як яна ствараецца ў цяперашні час у Луганску і Данецку), ці, аднак, будзе нармальнай еўрапейскай краінай. Вось гэта вызначэнне адбываецца хутка, і мы мусім працаваць над тым, каб, аднак, Беларусь была нармальнай еўрапейскай краінай.

Пазней заўважыў:

— Будаўніцтва цяпер жалезнай сцяны паміж ЕС і Беларуссю да нічога добрага не давядзе. Гэта будзе кансервацыя той цяжкой сітуацыі, якая ў нас доўжыцца ўжо 20 гадоў.

У ацэнцы адносін беларусаў да таго, што адбываецца ва Украіне, сказаў:

— Ніхто не хоча вайны. Беларусы не гатовыя да рэвалюцыйных змен, калі яны мелі б адбывацца пры кровапраліцці і вайне. У прынцыпе і я гэта падтрымліваю. Я думаю, нам трэба ісці спакойна, крок за крокам, нават яшчэ больш марудна. Паскарэнне падзей выклікае, што ўсё вяртаецца назад (...). Калі сітуацыя ва Украіне будзе працягвацца ў кірунку на паляпшэнне жыцця і бяспекі людзей, гэта будзе стратэгічны індыкатар і для беларусаў. Надзвычай важна тое, што будзе адбывацца ва Украіне ў бліжэйшыя пяць, сем, дзесяць гадоў. Мабыць, гэта нават найважнейшае з таго, што адбываецца ў нашым рэгіёне, у тым ліку ў Беларусі (...). ЕС прыйдзецца ў найбліжэйшай будучыні перагледзець свае тактычныя і стратэгічныя адносіны з Расіяй. Сама Расія прымусіць яе зняць ружовыя акуляры і зірнуць на свет такім, якім ён ёсць у рэальнасці.




■ Мар'я Пшэломец і Алесь Бяляцкі

Што тычыцца эканамічных пытанняў у Беларусі, сказаў:

— Я не бачу выразнай стратэгіі Захаду ў адносінах да эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. Самае галоўнае, што яна адарваная ад структурных змен у грамадстве (каля мільёна маладых людзей з сяла пераехала на працу ў Расію — М. Х.). Усё гэта робіцца для эканамічнага ўмацавання рэжыму, а мы хочам, каб, аднак, эканамічная дапамога з боку ЕС была звязана са структурнымі зменамі, крокамі для паляпшэння агульнай дэмакратычнай сітуацыі ў Беларусі.

Ён падкрэсліў прытым, што:

— Толькі эканамічнае становішча нашага грамадства можа прывесці да сур'ёзных палітычных перамен.

Ён пазбягаў адказу на пытанне, што адбудзецца ў бліжэйшыя некалькі гадоў у Беларусі:

— Многія, аднак, могуць працаваць на перамены да лепшага.

Ён прызнаў, што цяпер ён марыць аб спакоі, і нават у калоніі планаваў ехаць у Крым. Ён не прадбачыў, аднак, сітуацыі, якая там адбылася. Спадзяецца, аднак, што да верасня зможа цалкам акрыяць ад траўміруючых турэмных перажыванняў.

У размове з «Нівай» Алесь Бяляцкі перадаў беларусам Падляшша паведамленне:

— Вы павінны прытрымлівацца сваіх традыцый, мовы, рэлігіі, не забывацца хто вы ёсць, кім былі вашы бацькі і дзяды. Гэта натуральная рэч, якая датычыць кожнага народа. Мы, беларусы, не з'яўляемся выключэннем. Мы павінны быць як усе: не саромецца свайго.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

*Поўная справаздача са спаткання з Алесем Бяляцкім у сядзібе Фонду Стэфана Баторыя на сайце Радыё Рацыя:* ***www.racyja.com.***

## Belarusian House in Chicago

## http://belarushouse.org

Горад Чыкага, што ў Злучаных Штатах Амерыкі, калісьці меў славу самага крымінальнага горада на свеце. Было гэта амаль сто гадоў таму, і, зразумела, за гэты час многае там змянілася. Сёння Чыкага адзін з найбольш развітых гарадоў Амерыкі, куды імкнуцца людзі розных нацыянальнасцей, і беларусы ў гэтым не выключэнне. Яны нават заснавалі там свой „Беларускі дом". Каб пазнаёміцца з ім хаця б віртуальна, трэба набраць на камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://belarushouse.org**.

Першае ўражанне ад галоўнай старонкі сайта „Беларускі дом у Чыкага" — старонка да канца нераспрацаваная, і таму ўладальнікі сайта ставяць такія фотаздымкі, якія маюць вельмі аддаленую сувязь з беларусамі ў Чыкага. Так, на галоўнай старонцы беларускай версіі сайта большую частку выяўлення займае здымак Чырвонага касцёла ў Мінску.

Вэб-прадстаўніцтва „Беларускага дома ў Чыкага" размешчана ў інтэрнэце на платформе Wordpress і выкарыстоўвае далёка не ўсе магчымасці, якія прадстаўляе даная платформа. Таму на сайце ўсё даволі сціпленька. Там не сустрэнеш нейкай мультымедыйнасці — ёсць толькі фотаздымкі і тэкставая інфармацыя.

Выйсці на рубрыкі і старонкі размешчаны ўверсе і з левага боку выяўлення. Іх не так многа, ды і інфармацыя, што месціцца ў іх, не раскрывае цалкам сутнасці „Беларускага дома" і вельмі цьмяна распавядае аб яго дзейнасці. Пэўна, уладальнікі сайта хочуць у такі спосаб неяк падштурхнуць наведвальнікаў да нейкіх пісьмаў і тэлефанаванняў да «гаспадароў» „Беларускага дома".

„Місія кампаніі „Беларускі дом у Чыкага" — як кожнага гасціннага дома — адчыніць дзверы для індывідаў, прафесійных аб'яднанняў і арганізацый некамерцыйнага тыпу дзейнасці з Беларусі для інтэграцыі ў міжнародную культурную і прафесійную супольнасць. „Беларускі дом у Чыкага" таксама гатовы падтрымліваць сувязі і супрацоўнічаць з беларускімі культурнымі цэнтрамі ў розных краінах у мэтах рэалізацыі сумесных культурных і адукацыйных праграм. Заснавальнікі кампаніі — выхадцы з Беларусі, якія пражываюць у Злучаных Штатах, і якія маюць шматгадовы досвед працы ў фондах і некамерцыйных арганізацыях", — распавядаюць аб сваёй місіі «жыхары» „Беларускага дома" на старонцы „Аб праекце".

Згодна пададзенай там інфармацыі, сёлета спаўняецца роўна дзесяць гадоў з моманту заснавання „Беларускага дома ў Чыкага". На жаль, нейкай больш-менш поўнай справаздачы, што ж удалося зрабіць за такі немалы адрэзак часу, на сайце не знойдзеш.

Праўда, на старонцы „Нашы праекты" цікаўны карыстальнік убачыць тое-сёе, чым займаецца „Беларускі дом" зараз. „Беларускі дом у Чыкага" прапануе дапамогу ў арганізацыі кароткачасовых і працяглых праграм для моладзі, студэнтаў і прафесіяналаў з Беларусі па вывучэнню і практыцы ангельскай мовы (летнія і гадавыя праграмы). Кампанія праводзіць кансалтынг з любымі зацікаўленымі ў атрыманні прафесійнай адукацыі і навукова-даследчай працы ў Злучаных Штатах", — распавядаецца між іншага там. Пры гэтым нічога не кажацца пра кошты такой дапамогі альбо аб яе харытатыўнасці. Таксама нічога невядома аб паспяховасці такой дапамогі.

Адзінае, што можа дапамагчы развеяць усе сумненні і развязаць усе пытанні — гэта наладжванне кантактаў з дзвюма жанчынамі, якія ўказаны на старонцы „Як з намі звязацца". Пэўна, яны — актывісткі „Беларускага дома ў Чыкага" і ўсё пра яго ведаюць.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



### Архітэктар, які будаваў храмы

## 145 гадоў з дня нараджэння Лявона Вітан-Дубейкаўскага

Беларускі архітэктар, будаўнік і грамадскі дзеяч Лявон Вітан-Дубейкаўскі нарадзіўся 19 ліпеня 1869 года на Магілёўшчыне ў вёсцы Дубейкава (цяперашні Мсціслаўскі раён). Праўда, паводле іншых звестак дата нараджэння нашага героя мажліва іншая — 1867 год.

Дубейкаўскі спярша скончыў Мсціслаўскую гарадскую вучэльню. Потым атрымаў будаўнічую адукацыю ў школе будаўнічых рамёстваў у Варшаве. З 1897 года працаваў на Смаленшчыне: адкрыў будаўнічую кантору, будаваў там цэрквы. У Смаленску ў 1897 годзе заснаваў інжынерна-будаўнічае „Таварыства Л. Дубейкаўскі і К", у 1898 годзе — фабрыку жалезабетонных вырабаў. Працаваў таксама будаўнічым майстрам у розных мясцінах тагачаснай Магілёўскай губерні, будаваў аднаўленне касцёлаў у Магілёве, Оршы, Крычаве, Мсціславе, у вёсках Смаляны Аршанскага і Свіслач Асіповіцкага паветаў. У 1903 годзе здаў іспыт на інжынера-будаўніка пры інстытуце цывільных інжынераў у Пецярбургу. У наступныя два гады пабудаваў мураваныя цэрквы ў Ярцаве і Манастыршчыне на Смаленшчыне, скарбніцу ў Вязьме, аднавіў будынак Смаленскай пошты.

Далей у 1907-1909 гадах вучыўся ў Акадэміі архітэктуры ў Парыжы, атрымаў там дыплом архітэктара-мастака. З 1910 года жыў у Варшаве, працаваў у створаным ім уласным архітэктурным бюро, у 1913-1915 гадах выкладаў будаўніцтва ў тэхнічна-прамысловай школе. У сваім жыцці ён шмат пераязджаў. Так у 1916 годзе ўжо жыў у Мінску, дзе далучыўся да беларускага нацыянальна-культурніцкага руху, наведваў суполку „Беларуская хатка". У час Першай сусветнай вайны працаваў таксама ў Арле і на Палаччыне. У 1917 годзе ў Пецярбургу быў абраны сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта. З 1919 года Вітан-Дубейкаўскі стаў старшынёй Беларускага камітэта ў Варшаве, фактычна выконваў абавязкі пасла БНР у Польшчы. Актыўна выступаў у беларускім друку з артыкуламі, у якіх пратэставаў супраць нацыянальнага гвалту польскіх улад над насельніцтвам Заходняй Беларусі.

У 1919 годзе чытаў папулярныя лекцыі па архітэктуры на беларускіх настаўніцкіх курсах у Гародні і Вільні. З 1922 года адышоў ад палітычнай дзейнасці. Займаўся пераважна будаўнічымі работамі ў Вільні, быў дырэктарам мясцовай мулярскай школы (1925-1929). Паводле ягоных праектаў будаваліся касцёлы і будынкі ў Вільні і на Віленшчыне. У 1934-1938 гадах кіраваў аднаўленнем Марыянскага кляштара ў Друі. Супрацоўнічаў з Беларускім навуковым таварыствам і беларускімі арганізацыямі хрысціянска-дэмакратычнага кірунку, дапамагаў матэрыяльна беларускім студэнтам у Польшчы.

Як архітэктар працаваў у стылях неаготыкі і мадэрн. Займаўся таксама літаратурай, збіраў беларускі фальклор. Вядомая ягоная дасціпная вершаваная байка „Цягне воўк — пацягнуць і ваўка", верш „Бура". У 1940 годзе скончыў працу „Эвалюцыя і рэформа драўлянага дойлідства", якая аднак не была надрукавана. У тым жа годзе памёр, пахаваны ў Вільні на знакамітых могілках Росы. На помніку, апрача імя ды дат нараджэння і смерці, напісаны евангельскія словы, якія часта паўтараў Дубейкаўскі пры жыцці: „Не сумуйце, як тыя, што надзеі не маюць". Сярод яго архітэктурнай спадчыны касцёл у Відзах, Петрапаўлаўскі касцёл у Друсвятах, кватэры польскага войска ў Вільні і іншыя будынкі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ініцыятыўны пенсіянер

**Са Здзіславам Закшэўскім пазнаёміліся мы ў дзевяностых гадах, калі разам падарожнічалі ў Беларусь са Здзіськам і ягоным сынам Лешкам. Наведвалі мы суродзічаў на Пагранічнай, у Вярховічах і Камянцы, ездзілі за пакупкамі ў Высокае і Брэст. Зараз Лешак Закшэўскі перасяліўся ў Вялікабрытанію і там працуе. Мы з сеніёрам Закшэўскім засталіся „дамашамі”, папаўняем круг членаў Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. Карыстаючыся нагодай сабраўся я да прыяцеля з візітам...**

Наведаў я сябру ў дамашнім ачагу ў Чаромсе-Станцыі па вуліцы Ставіскай, 4. Шыкарная жалезная агароджа, задбаны, поўны кветак, агародчык з прыстрыжанымі туямі сведчаць аб дбайнасці і кемлівасці гаспадарскай рукі. «Які пан, такі крам», — гавораць у народзе. І гэта праўда. Пенсіянерам Закшэўскі лічыцца больш дзесяці гадоў. Першапачаткова быў пенсіянерам па інваліднасці, ад мінулага года — па стажы працы і ўзросце. Ягоны прафесійны стаж працы каля 35 год, у тым ліку амаль 30 гадоў — на чыгунцы. Па прафесіі ён слесар-механік. Прафесійную адукацыю здабываў у Ласіцах. Пасля арміі паступіў на чыгунку.

Колішняя сячкарня — экспанат, які красуецца ў каляровым агародчыку Закшэўскіх

У Чаромсе ажаніўся і пасяліўся на пастаяннае жыхарства. Цікавая гэта асоба, поўная ініцыятыўнасці і кемлівасці. Сам усё зробіць, чалавеку ў бядзе дапаможа. Так было, напрыклад, калі затрацілі я ключы ад кватэры. Патэлефанаваў я Закшэўскаму:

— Прыязджай, дружа, выручай. У хату не ўвайду. Дзверы прыйдзецца ламаць...

Бондар Здзіслаў Закшэўскі

— Ды, што вы, пан Сідарук, з глузду з'ехалі! — пачуў я голас у трубцы. — Пачакайце хвілінку...

Прыехаў, устараніў загану. Дзверы зняў пры дапамозе малатка і адвёрткі. Я адно вачыма вадзіў. Запаснымі ключамі адкрылі замок. Паставілі дзверы на месца, нават шчарбіны не засталося. Вось што значыць кемлівы чалавек. Але ахвота дапамагаць не адзіная рыса Закшэўскага. Першай рысе спадарожнічаюць іншыя — ініцыятыўнасць і таленавітасць. Прыкладаў не трэба далёка шукаць. Першы з боку: дэкаратыўныя драўняныя бочачкі. Цацка. Сапраўднае мастацтва. Сам робіць, уручную... А як гэта пачалося, дык няхай сам раскажа:

— Пасадзіў я ў агародчыку вінаград, — пачаў сябра Закшэўскі. — Шыкарны вырас. Калі пачалі асыпацца плады, стаў я задумвацца як выкарыстаць садавіну. І рашыў віно зрабіць. Для выцiскання соку прыспасобіў адмысловую выжымалку. Вынаходлівасць, ініцыятыўнасць апраўдаліся. Атрымалася прылада прыдатная ў хатняй кухні...

У выніку атрымалася экалагічнае і смачнае віно без лішніх кампанентаў. Спатрэбілася затым пасудзіна для трунку. Тут я пакарыстаўся інтэрнэтам. Калі я стаў глядзець партал „You-Tube”, дык трапіў на інструкцыю „Як зрабіць бочку?”. Для гэтай мэты зрэзаў невялічкі дубочак, які рос на панадворку. Светлай памяці Федзя з Рэпчыч парэзаў камель у тартаку на дошчачкі. Затым пачаў я складваць бочачку. Марудная ды карпатлівая гэтая ручная работа, асабліва калі тычыцца выпальвання нутра бачуркі. А робіцца гэта таму, каб дошчачкі выгнуліся. Усярэдзіне падпальваў я драніцы. Пад уздзеяннем тэмпературы дошчачкі змякчаліся ды выгіналіся.Тады паліваў я іх халоднаю вадой для астуджання. Затым браў канат і звонку сціскаў бачулку. Знізу і зверху набіваў вобады. На бондарскім заводзе вытворчы цыкл, які дэманструюць на тэлеролiках, паступае механічна. Я раблю ўручную. Дэкаратыўныя арнаменты, напрыклад, выпальваю паяльнікам, а кранік для спуску напітку куплю ў краме. Вытворчасць адной бочачкі займае два-тры дні.

— У мяне свае клiенты-заказчыкі, — прыбаўляе з усмешкай Здзісек. — Задумваюся, ці не паставіць выраб як экспанат у Гмінны цэнтр культуры, у куточак рамесных вытворцаў. Няхай удзельнікі фольскавых сустрэч „З вясковага панадворка” пабачаць...

Вось які гэта мой сябрук Здзіслаў Закшэўскі. Ініцыятыўны і творчы чалавек. Сардэчны калега, прыкладны гаспадар і добразычлівы прыяцель. На такога заўсёды можна разлічваць!

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. правабярэжная частка венгерскай сталіцы = 6 _ 5 _ 4 _ 19 _;
2. аддалены працяжны шум = 1 _ 9 _ 18 _;
3. іґральная карта з відарысам жанчыны = 20 _ 21 _ 16 _ 17 _;
4. тоўсты сноп саломы = 12 _ 13 _ 14 _ 15 _;
5. від фартэпіяна = 10 _ 7 _ 22 _ 2 _ 3 _ 8 _ 11 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Рэшата, струп, арыя, вяроўка, Ружаны, сука, лістоўніца, Бона, цырк.

Рашэнне: **Пужаная варона куста баіцца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 20.07 — 26.07

**(22.03. — 20.04.)** Пачнеш моцна турбавацца зменай працы (20-24.07.). 26.07. адкрыеш для сябе занятак, які не толькі ўзбагаціць тваё жыццё, але і яго аздаровіць. Прытым зрэалізуеш задуму, якая даўно табе ходзіць па галаве. Да 21.07. старайся не злавацца! 23-27.07. можаш дазволіць сабе на малое шаленства, грошай хопіць!

**(21.04. — 21.05.)** 23-27.07. схільны будзеш да сур'ёзных размоў у пары і спелых вызначэнняў. Падтрымкай ва ўсім будуць блізкія. Добра задбаеш аб сябе. Кампануй добра ежу, не аб'ядайся. Мноства работы, прытым хутка з усім справішся. Але 20-24.07. калега на працы будзе табе шкодзіць, і перашкоды могуць множыцца. Не хваліся тым „што ты можаш” асабліва 22-26.07.

**(22.05. — 22.06.)** 20-21.07. творчыя дзеянні, можаш дапяць таго, што хочаш. Але 20-24.07. перашкоды, на якія натрапіш, здадуцца табе не да пераадолення; адчакай цяжкі перыяд, бо галавой муру не пераломіш. Твае планы могуць паваліцца 23-27.07. як касцяшкі даміно, хаос можа цябе выбіць з раўнавагі. Блізнятам народжаным 6-10.06. могуць дакучаць старыя хваробы і болі ў касцях і суставах.

**(23.06. — 23.07.)** 26.07. разбудзіш у сабе сілу і адчуеш сябе непераможным. Непахіснасць характару дазволіць табе на правільныя выбары. Але 23-27.07. можаш быць легкадумным; не давядзі да чагосьці, чаго пасля будзеш шкадаваць! Востра ў пары 20-24.07. Затое энергіі будзе ў цябе дастаткова. І грошай мае хапіць на здзяйсненне нейкай мары.

**(24.07. — 23.08.)** Да 22.07. будзеш пераканаwell, што няма чаго з кімсьці вязацца. 20-24.07. будзеш схільны да рызыканцкіх паводзін. Пільнуйся на дарозе, не шалей. 20-24.07. ёсць таксама пагроза, што можаш апынуцца на неадпаведным баку барыкады; лішне не дыскутуй. 20-21.07. трымай на павадку эмоцыі. 25-27.07 упарадкуеш каляндар і задбаеш аб дэталі.

**(24.08. — 23.09.)** 22-26.07. поспехі ў інтарэсах! Сядзіш на залатой жыле! Мусіш толькі знайсці спосаб, каб да яе дабрацца. Сюрпрызы зменяць тваё жыццё на лепшае. 20-21.07. удачы ў афіцыйных размовах і нялёгкіх негацыяцыях; здабудзеш тое, што хочаш, з мілымі прыгодамі. 20-21.06. не купляй непатрэбшчыны (зрабі спісак на пакупкі). А з 21.07. магчымыя праблемы на працы, твае старанні могуць аказацца беспаспяховымі. 23-27.07. не прымай удзелу ў ніякіх вызначэннях, бо і так з гэтага нічога не вынікне.

**(24.09. — 23.10.)** Калі 26.07. кепска скалькулюеш і страціш крыху грошай, не панікуй. Хутка надгоніш страты. Але канфлікт з сапернікам добра не кончыцца. Можаш разлічваць на падтрымку сям'і.

**(24.10. — 22.11.)** Дбай аб свой настрой і здароўе, бо калі занядужаеш, можа гэта хутка не скончыцца! 26.07. можаш пачаць рамонт і перастаноўкі дома. Маеш шанц на новую, цудоўную рэляцыю. Адважна бяры справы ў свае рукі!

**(23.11. — 22.12.)** Некаторыя знаёмыя (зайздроснікі!) цябе моцна расчаруюць. Вельмі пільнуйся на працы 20-24.07., — глядзі, на што пагаджаешся! Можаш ухрунуцца ў залежнасці, якія цяжка будзе перасячы. Паводзь сябе абдумана! 22-26.07. будзеш умела бараніць свае перакананні, аптымізмам і бравурнасцю дапнеш сваіх мэт.

**(23.12. — 20.01.)** Чакае цябе шмат выклікаў і навала працы. Але цябе справішся! Будзеш рады выбіраць чым заняцца. Нават лавіўшы сорак сарок за хвасты! Ну, можа з гэтага грошай вялікіх не будзе, але загаспадарыш тое, што маеш. Добрыя інвестыцыі! 23-27.07. будзеш паспяховы. Лёгка дасягнеш сваіх намераў, пры нагодзе пакажуць усе свае козыры. Можаш удала сесці на нерэстрыкцыйную дыету.

**(21.01. — 19.02.)** Выдатны настрой. Сустрэнешся з вялікай сімпатыяй атачэння. Нервы трымай на павадку, не кідай талеркамі! Эмоцыі разгрузі бегаючы, слухай музыку. Можаш падпісаць важную дамову. 22-26.07. не азірайся на іншых, бяры справы ў свае рукі.

**(20.02. — 21.03.)** Не канфліктуй з кіраўніцтвам асабліва 20-21.07. Дома не дзейнічай супраць самога сябе. Калі не ведаеш, што рабіць, парайся з кімсьці давераным. Захавай раўнавагу паміж абавязкам і здароўем, найдзі час для сябе, добра высыпайся. У прафесійным жыцці можаш дасягнуць поспеху, ачоліць нейкую групу, правесці важныя размовы. Але не павучай іншых!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# Без долі
## на канцы свету! (3)

У народзе часта паўтараюць: не бядуй — бяда сама прыйдзе! Пушчанскія людзі апошнія, каб наракаць на лёс, нават калі ён абрыдлы як горкая радыска. Лідзія Назарук свае жыццёвыя паразы зводзіць да адной рэфлексіі:

— Ніколі я не ўмела абараніць сябе, баялася, каб у жыцці не астацца адзінокай з бядой...

Пачатак яе свядомага жыцця выпаў пад знакам адчужанасці. Пасля вайны бацькі зноў рашылі з’ехаць з будынкамі на хутар. Тут былі лугі і пяць гектараў поля. Новая граніца здавалася часовай з’явай. Ніхто не ведаў, у якой краіне выпадзе ім жыць праз год-два. Каб вярнуць да жыцця запушчаны хутар, сям’я працавала ад рання да ночы. Але не праца была самай вялікай траўмай для Лідзіі, якая ўваходзіла ў дарастанне.







* * *

Па новым баку граніцы свет здаваўся чужым і непрыветным. Усе сяброўкі і сваякі асталіся за мяжой, у Беларусі. У Вэрсток, дзе назначылі ім новую царкву і парафію, трэба было ісці пяць кіламетраў праз лес.

— Да вайны мы не хадзілі ў гэты бок, — кажа мая гераіня. — Добры і прыязны свет астаўся там, дзе бестурботнае дзяцінства, у вёсцы Бобенцы і Амелянцы. Найгорш, калі аднагодкі смяяліся з яе мовы. У суседняй Старыне замест *кінь* гаварылі *куонь*, замест слова *тількі* казалі *тулько*... А ўжо найбольш дражніліся з *кіта* і *кішкі*, якіх чамусці тут клікалі *котом* і *куошкой*. Сустрэча з аднагодкамі няраз канчалася сваркай або і бойкай. У Лідзіі не было старэйшага брата, які абараніў бы перад разбэшчанай жэмэрвой.

— Праз гэта я хацела ісці ў школу, — успамінае. Памятае, як спачатку вадзілі яе ў Старыну бацькі. Школа знаходзілася ў пачатку вёскі, у хаце Фадзея Клімука і там дзе сёння *палацы* — так у наваколлі называюць узведзены напрыканцы XX ст. мураваны дом з басейнам, абведзены мурам. Там працавалі толькі чатыры класы. Пасля вайны цяжка было сабраць у адзін клас аднагодкаў.

— Адно дзіця ішло ў 8 год, другое ў 15, а трапляліся і такія, якім было ўжо пад 20...

У школу хадзіла два разы ў тыдзень. Бацькі прывучалі працаваць на гаспадарцы. Лідзія палола лён, проса, грэчку і агароды. Пасвіла кароў і авечак. Вясной раскідала гной, садзіла бульбу ды яшчэ ў хаце прыбірала, парадкі на панадворку наводзіла. Збірала чарніцы і грыбы ў лесе, даглядала малодшую сястру-інвалідку.

— Як пайшла я ў чацвёрты клас, то толькі да зімы пахадзіла, пасля пасадзілі мяне на калаўротак.

Замест чытаць і пісаць ёй загадалі прасці ніткі на палатно, на мяшкі, на дываны. Праўда, тыя дзявоцкія дываны і капы дапамаглі ёй пазней у жыцці. Прадавала іх за паўцаны, каб назбіраць дзецям на хлеб...



* * *

Шчасце і дабрабыт, якія нарыхтавалі ёй бацькі-хутаранцы, як не дзіўна, абышлі яе бокам. Замест долі, адна бяда за бядою...

— Нічога гожага ў жыцці я не пабачыла, не перажыла, — скажа жанчына.

— Да мяне прынялі прымака, з-пад Орлі, — успамінае жанчына. — Ён добры быў, дапамагаў у гаспадарцы, на работу хадзіў. Але не было з гэтага толку. Усе грошы ён маёй маці мусіў аддаць. Такая палітыка была. А дапрасіцца ў яе залатоўкі — горш як у каго чужога. Маці не дапускала да кухні. Я ў канцы дабілася, каб для саваёй сям’і варыць. З гэтага таксама адна бяда і прыніжэнне атрымалася. Як я не старалася — усё дарма. Нарыхтую яду, пастаўлю варыць... Хапіла, што на міг ад пліты адвярнуся, а яна бах, жменю солі ў каструлю бухне. І смяецца — во, якая з мяне гаспадынька...

А пасля сястра зацяжарыла. Што не рабілі, як не дапытвалі — яна ані слова. Як завезлі яе на *породуўку*, маці шантаж прымяніла. Прыгразіла, што ў бальніцы яе аставіць, хіба што прызнаецца з кім зацяжарыла...

Сястра, як агню баялася шпіталя. Яна нічога не разумела, адно баялася, плакала. Усё дахаты хацела, у лясны хутар. Дык і прызналася маці. Для мяне тады свет заваліўся і ўсё абрыдла. Бацькам яе дзіцяці быў... мой шлюбны муж. Я не ўмела змірыцца. Як можна пакрыўдзіць такую асобу — яна ж нічога не разумее, не ведае. Нават не ведае колькі ў яе пальцаў на руцэ. Я не ведала як людзям у вочы глянуць. У хаце таксама адны сваркі і лаянка. Не было ўжо як жыць пад адным дахам. Дык мы кінулі ўсё і з тройкай дзяцей, як стаялі, голыя і босыя, з адной коўдрай і вядром на памыі, паехалі ў Гайнаўку. Каб як далей ад таго гора, бяды...

*(працяг будзе)*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

